КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 24 (296) ◂ 15 чэрвеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ГАЛОЎНЫ ЦЕЛААХОЎНІК СТАЛІНА**

Стар. 14

**ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА БЕЛАРУСКАЙ УЛАДЫ**

Чаму на судовай галіне ўлады, быццам ластаўкі на дроце, так шчыльна ўладкаваліся жанчыны?

Стар. 4

**КВЕБЕКСКАЯ ВЯСНА**

Ужо больш за тры месяца ў канадскай правінцыі Квебек працягваецца беспрэцэдэнтны канфлікт улады і студэнтаў з-за ўвядзення новых коштаў навучання

Стар. 11

**НКУС–ГЕСТАПА: ШЛЮБ ПА РАЗЛІКУ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144



**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАГАДВАЕМ: НАДЫШОЎ ЧАС ПАДПІСКІ НА ДРУГОЕ ПАЎГОДДЗЕ.**

Падпісацца можна з любога месяца і тыдня праз пошту ці праз банк

▸ АД РЭДАКТАРА

# ПЛАН ПУЦІНА — ЧАЦВЁРТЫ ЭТАП

*Аляксей КАРОЛЬ*

**Трэцяе прышэсце Пуціна на крамлёўскі пасад (а з умоўным перапынкам на адну прэм'ерскую кадэнцыю — чацвёртае) азначана масавымі вулічнымі акцыямі. Яскравае сведчанне, што першасны план Пуціна па кіраванні Расіяй апынуўся пад пагрозай.**




Але спачатку нагадаем, што такое план Пуціна. Словазлучэнне «план Пуціна» ўзнікла, па-сутнасці, выпадкова. Так называлася кніга, што выйшла ў 2007 годзе пад эгідай «Адзінай Расіі» і ўяўляла сабой зборнік пасланняў Пуціна да народа ў спалучэнні з пэўнымі партыйнымі прапагандысцкімі матэрыяламі. Але назва аказалася настолькі палітычна трапнай, што хутка атрымала амаль сакральнае гучанне — план Пуціна, план развіцця Расіі.

Аднак хутка праявілася сапраўдная, галоўная ідэя плана — утрыманне і ўмацаванне ўлады. Гэты план наўрад ці існуе ў цэльным, завершана аформленым і прапісаным выглядзе. Ён фармаваўся па сітуацыі, этап за этапам, рэагуючы на новыя выклікі, але настойліва і паслядоўна змяняючы пад сваю мэту навакольны сусвет. І ніколі не быў асабістым планам Пуціна. Сам Пуцін напачатку быў не болей чым фігурай, на якую паставілі, вынікам кампрамісу вярхоўных эліт тагачаснай Расіі — «сям'і» Ельцына, старой і новай наменклатуры, старога і новага КДБ, «алігархаў».

Канструкцыя ўлады, што вынікала з плану, не была канструкцыяй дыктатарскай сістэмы, але не была і канструкцыяй дэмакратычнай. Адсюль яе мянушкі: «кіруемая дэмакратыя», «калектыўны Пуцін». Як і не была першапачаткова разлічана на пажыццёвага Пуціна. Сённяшні «калектыўны Пуцін» заўтра мог быць заменены на «калектыўнага Іванова, Пятрова, Сідарава». Карпаратыўны тып улады архітэктарам плана падаваўся нашмат бяспечней. Сам Пуцін не раз сціпла вызначаў сваю ролю не болей як менеджэра.

Грамадскую думку наконт пагрозы рэстаўрацыі таталітарнай сістэмы супакоіла і яго адмова ісці на трэці тэрмін. Удалым выявілася і вынаходніцтва тандэма з Мядзведзевым, з яго ліберальнай рыторыкай пра мадэрнізацыю Расіі. Магчымасць, хай сабе і марудная, з хібамі і перакосамі, эвалюцыі краіны да дэмакратыі выглядала рэальнай. Цішыня ў апазіцыйным лагеры, ні намёку на сацыяльны пратэст — таму пацвярджэнне.

І вось нечаканы выбух — серыя масавых вулічных акцый пратэсту напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, затым непасрэдна ў дзень інаўгурацыі Пуціна, і яшчэ, яшчэ, аж да апошняй — «Маршу мільёнаў». Працяг абяцаны. Акцыі — мірныя, патрабаванні — радыкальныя: круглы стол з апазіцыяй, адстаўка Пуціна, новыя выбары па новаму заканадаўству. У вулічных калонах — усе палітычныя сілы, ад левых да правых, усе незадаволеныя, нават з тых, што так ці інакш падтрымлівалі тыя самыя эліты, якія калісьці дамаўляліся на план Пуціна. Акрамя новага КДБ.

Спускавы курок пратэсту сарвала беспардонная ратацыя Мядзведзеў — Пуцін, якая наслаілася на спад матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва, на бязмежны размах карупцыі і на спакваля выспяваўшы ў сувязі з гэтым сацыяльны пратэст. Стала відавочна, што ў саюзе эліт верх узяла каманда новага КДБ, перайменаванага ў ФСБ, а замест калектыўнага Пуціна краіне прапануецца персанальны Пуцін. Аж на новыя два тэрміны, можна лічыць — пажыццёва.

Рэканструкцыя карпаратыўнай сістэмы ўлады па мадэлі персаналісцкай з рэстаўрацыяй элементаў (рудыментаў) старой класічнай таталітарнай савецкага ўзору — так можна на сёння вызначыць чацвёрты этап плана Пуціна. Метады і спосабы — сілавыя, рэпрэсіўныя, што таксама з відавочнасцю прадэманстраваў яго рэжым.

Ці ўдасца пагасіць хвалю пратэсту — пытанне пакуль адкрытае. Шанцы ў апазіцыі на развіццё поспеху не безнадзейныя. У аснове цяперашніх масавых вулічных акцый у Расіі пераважвае стыхійны пратэст, энергія якога, як сведчыць гісторыя, дастаткова магутная. Сілавыя спосабы скарыць, заглушыць гэту энергію нярэдка прыводзяць да выбуху.

Працэсы адкату постсавецкіх краін да аўтарытарызму і таталітарызму прынцыпова падобныя. Але адбываюцца яны з рознай хуткасцю, на тле адрозных гістарычных традыцый, у розных геаграфічных маштабах. У Беларусі, адносна невялікай краіне, адкат адбыўся на першай постсавецкай фазе, на самым пачатку трансфармацыі старой сістэмы, калі дэмакратычныя сілы былі слабыя, без вопыту, не паспелі арганізацыйна аформіцца, стварыць устойлівую сістэмную апазіцыю. Але і ў гэтых акалічнасцях старой-новай рэакцыйнай бюракратыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам спатрэбілася дзясятак гадоў, каб утаймаваць энергію масавага супраціву. Узгадаем хаця б шматтысячныя «Маршы свабоды». Менавіта ўтаймаваць, але не зліквідаваць канчаткова, пра што сведчыць шматтысячная Плошча–2010.

У Расіі ў адкрыты наступ сілы таталітарнага рэваншу выступілі толькі цяпер. За гэты прамежак — ад пачатку 1990-х — там сфармаваўся той самы сярэдні, той самы крэатыўны клас, які сёння і з'яўляецца ядром энергіі пратэсту. Ацалела сістэмная, хаця і часткова прыручаная, апазіцыя. Сфармавалася капіталістычная мадэль эканомікі. Хай сабе і дэфармаваная, пранізаная карупцыяй, але гэта ўспрымаецца як вынік дзейнасці ўлады, і таму таксама з'яўляецца аб'ектам пратэсту, у тым ліку з боку новай буржуазіі. Кансервацыя, тым больш узмацненне аўтарытарных тэндэнцыяў пагражае яе ўласнаму існаванню.

Ужо відавочна, што Пуцін зрабіў стаўку на сілавы варыянт падаўлення апазіцыі. І наўрад ці адступіцца ад яго. Будзе манеўраваць, трымаць паўзу, каб зноў нанесці ўдар. Варыянт, што ён здольны пайсці на сістэмныя рэформы, рэальную мадэрнізацыю краіны (а значыць — і сыход з улады) у яго дзеяннях на сённяшні момант не праглядаецца.

Хто каго? Сілы рэакцыі ці сілы дэмакратыі? Ад вырашэння гэтага пытання ў Расіі будзе ў вызначальнай ступені залежыць і вырашэнне таго ж пытання ў Беларусі. У знешняй палітыцы план Пуціна трымаецца на старой імперскай ідэі, і Беларусь на яе вастрыі.

Працяг тэмы на стар. 5 ▸

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ХОЦІМСК. ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ АКТЫВІСТАЎ

На працягу апошняга тыдня супрацоўнікі праваахоўных органаў праводзяць прафілактычныя размовы з дэмакратычнымі актывістамі Хоцімскага раёна і папярэджваюць пра адказнасць за ўдзел у несанкцыянаваных уладамі мерапрыемствах.

«На мінулым тыдні супрацоўнікі хоцімскай міліцыі правялі такую гутарку з адным з мясцовых актывістаў «Гавары праўду», — распавядае журналіст Барыс Вырвіч. — Таксама ён вымушаны быў падпісаць паперу, што папярэджаны пра адказнасць за ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах».

Па словах журналіста, сёння ўжо супрацоўнік Касцюковіцкага міжраёнаддзела КДБ правёў адпаведную размову з іншым актывістам гэтай жа арганізацыі: «Зноў жа, актывіст падпісаў паперу, што папярэджаны пра адказнасць. Неабходна адзначыць, што дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў па запалохванні дэмакратычных актывістаў прыносяць пэўны эфект, бо гэтыя людзі прасілі не называць іх прозвішчы. Кажуць, што іх папярэдзілі пра тое, што ў выпадку з'яўлення фотаздымкаў з іх удзелам у нейкіх акцыях у інтэрнэце яны будуць пакараныя вялікімі штрафамі».

На думку спадара Вырвіча, такая актыўнасць супрацоўнікаў праваахоўных органаў у адносінах да дэмакратычных актывістаў Хоцімскага раёна звязаная з хуткім пачаткам кампаніі па выбарах у Палату прадстаўнікоў.

«У Хоцімскім раёне даволі моцныя дэмакратычныя суполкі «Гавары праўду» і партыі БНФ, якія выказалі намер прыняць актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі. Думаю, шляхам такога вось прэвентыўнага запалохвання ўлады маюць намер нейкім чынам зменшыць іх актыўнасць. Як бачна, часткова ім удаецца дасягнуць сваёй мэты», — выказвае сваё меркаванне журналіст.

### ГЛЫБОКАЕ. ПРЫМУСОВАЯ ПАДПІСКА НА ГАЛІНОВЫ ЧАСОПІС

З мясцовай падатковай інспекцыі тэлефануюць па прадпрыемствах ды «настойліва прапануюць» падпісацца на часопіс «*Налоговый вестник*». Між тым кошт часопіса немалы — 640 800 рублёў на паўгода.

«Мне патэлефанавалі, запыталіся, ці падпісана прадпрыемства на гэты часопіс. І пакінулі нумар тэлефона — каб падпісаўся, а потым «адсправаздачыўся», — распавёў на ўмовах ананімнасці дырэктар аднаго з малых прыватных прадпрыемстваў Глыбокага.

Цяпер ён вырашае, падпісвацца ці не. З аднаго боку, грошы на падпіску трэба аддаць немалыя. З другога боку, «многія выпісваюць гэты часопіс, каб не мець у далейшым лішніх праблем з падатковай інспекцыяй», піша мясцовы сайт glybokae.by.

### ГРОДНА. СУД НА БАКУ ГАРВЫКАНКАМА

12 чэрвеня ў Гродна прайшоў разгляд скаргі актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Сяргея Ліса да гарвыканкама на прадмет забароны пікету, які быў заяўлены на 15 мая.

Суддзя Ленінскага раённага суда Ала Баўсук за паўгадзіны разгледзела справу і не задаволіла скаргу. Інтарэсы гарвыканкама прадстаўляў юрыст Леанід Жук. Сяргей Ліс спрабаваў заявіць сваёй прадстаўніцай на судзе Аляксандру Васілевіч, але суддзя не задаволіла гэтае хадайніцтва. У адказ на пытанне самой Васілевіч пра тое, ці будзе адмова ва ўдзеле прадстаўніка адлюстраваная пісьмова ў пратаколе судовага пасяджэння, суддзя Ала Баўсук выдаліла яе з кабінета — фармальна за парушэнне ходу судовага працэсу.

Хто і калі будзе разглядаць аналагічную скаргу самой Аляксандры Васілевіч, якой гарвыканкам таксама адмовіў у правядзенні пікету пад лозунгам "За справядлівыя выбары без Лукашэнкі", пакуль не вядома.

### СЛОНІМ. ЗБІТУЮ МІЛІЦЫЯНТАМІ АКТЫВІСТКУ АШТРАФАВАЛІ

У Слоніме 12 чэрвеня адбыўся суд над мясцовай актывісткай аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Вольгай Пансевіч, якую ў красавіку збілі міліцыянты. Яе абвінавацілі ў непадпарадкаванні міліцыі і нецэнзурнай лаянцы.

У першай палове дня ў судзе заслухалі паказанні самой актывісткі і двух сведак-міліцыянтаў. Па словах аднаго з іх, пры затрыманні Вольга Пансевіч паводзіла сябе нібы п'яная. Аднак гэта не пацвярджаецца паказаннямі другога міліцыянта. Таксама адсутнічала асведчанне яе на алкаголь.

Пасля перапынку заслухалі яшчэ аднаго міліцыянта і трох сведак з боку Вольгі Пансевіч.

Суддзя Іван Ластоўскі па двух адміністратыўных артыкулах — за непадпарадкаванне міліцыі і нецэнзурную лаянку — аштрафаваў актывістку на 2 мільёны 500 тысяч рублёў.

Са слоў Вольгі Пансевіч, 21 красавіка на вуліцы Хлюпіна ў Слоніме прыкладна ў 19:30 да яе падышлі супрацоўнікі патрульна-паставой службы і прапанавалі праехаць з імі ў аддзел. Жанчына адмовілася. Тады яны сілком скруцілі яе і запіхнулі ў машыну, пры гэтым наносілі ўдары рукамі і нагамі, надзелі кайданкі. Даставіўшы ў аддзел, змясцілі ў затрымальнае памяшканне, дзе трымалі трое сутак, збівалі, ставілі ў позу «ластаўкі». Жанчына сказала, што будзе абскарджваць такія дзеянні міліцыі. У адказ на гэта 30 мая Вольгу азнаёмілі са складзенымі на яе двума пратаколамі.

**Матэрыялы калонкі падрыхтаваны паводле сайта spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## АКТЫВІСТА ЗВАЛЬНЯЮЦЬ З ПРАЦЫ

**Грамадскага актывіста з Баранавічаў Рыгора Грыка звальняюць з працы.**

Спадар Грык атрымаў пісьмовае паведамленне, што з ім не будзе працягнуты кантракт. Да яго дадому прыехалі інжынер аддзелу менеджменту персаналу аўтаагрэгатнага заводу Ала Ткачова і інжынер аддзелу арганізацыі працы і заработнай платы Вольга Мініч.

Нягледзячы на тое, што Рыгор Грык знаходзіўся дома на бальнічным, супрацоўніцы завода ўручылі яму пісьмовае паведамленне за подпісам дырэктара завода Юркевіча А.В. аб тым, што ён будзе звольнены 30.06.2012 года ў адпаведнасці з п. 2 арт. 35 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Сам Рыгор Грык лічыць, што яго звальняюць з працы на Баранавіцкім аўтаагрэгатным заводзе за актыўную грамадзянскую пазіцыю і абарону правоў рабочых і грамадзян.

Раней з Рыгорам Грыкам не быў працягнуты кантракт на Баранавіцкім бавоўняным камбінаце пасля парламенцкіх выбараў 2008 года, калі ён быў кандыдатам у дэпутаты. У 2010 годзе з ім таксама не быў працягнуты кантракт на Баранавіцкім вагонным дэпо, калі ён балатаваўся ў мясцовы савет.

Да слова, на пачатку чэрвеня Рыгор Грык накіраваў лісты ў Генеральную пракуратуру, Следчы камітэт і Міністэрства ўнутраных спраў з просьбаю разабрацца з правамернасцю пікета, які ладзілі афіцыйныя прафсаюзы і БРСМ падчас суда над Віктарам Івашкевічам 22 мая.

Свае прэтэнзіі спадар Грык абгрунтаваў так: пікет адбываўся ў месцы, не адведзеным для яго паводле закону. Разам з тым, калі актывіст прасіў дазволу на пікеты ў Баранавічах, мясцовае кіраўніцтва іх не дазваляла. Атрымліваецца, афіцыйная Федэрацыя прафсаюзаў і БРСМ могуць праводзіць пікеты ў не дазволеных законам месцах, а простыя грамадзяне не?

ПАМЯЦЬ

## БОГ ПАЦАЛАВАЎ ЯГО Ў МАКАЎКУ

Вольга ХВОІН

**Год таму — 11 чэрвеня — ад цяжкай хваробы пайшоў з жыцця выбітны беларускі палітолаг Віталь Сіліцкі. Яму было толькі 38 гадоў.**

У сумную гадавіну калегі і сябры зладзілі вечарыну памяці першага дырэктара Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Віталя Сіліцкага.

Віталь Сіліцкі спачатку скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт па спецыяльнасці сацыялогія, затым атрымаў выдатную адукацыю на захадзе — абараніў дыплом магістра ў Цэнтральнаеўрапейскім універсітэце ў Венгрыі і доктара паліталогіі ў Ратгерскім універсітэце ЗША. Ён стажыраваўся ў Міжнародным форуме даследаванняў дэмакратыі (Нацыянальны фонд у падтрымку дэмакратыі, ЗША) і Стэнфардскім універсітэце. Меў вялікія магчымасці, каб застацца на Захадзе жыць і працаваць у больш камфортных умовах, але вярнуўся ў Беларусь.

І тут, у Беларусі, Віталь Сіліцкі зрабіў важкі ўнёсак у развіццё беларускай паліталагічнай супольнасці, быў заснавальнікам і першым дырэктарам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS). Выдатным палітолагам, выдатным публіцыстам, голас якога слухалі не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі.

Калегі адзначалі, што Віталь быў не проста акадэмічным чалавекам, але і блізкім да рэальнага жыцця. Ён лічыў важным прысутнічаць на ўсіх знакавых падзеях. І ўжо вельмі хворым прыйшоў на плошчу 19 снежня 2010 года. Прысутныя гаварылі многа добрых слоў, узгадвалі Віталя Сіліцкага як выбітнага навукоўца, няпростага, але шчырага чалавека, адданага беларуса, які «ў дзесяць гадоў цярпець не мог беларускую мову, а ў дваццаць — рускую» і быў «закаханы ў дурненькую бландыначку — Беларусь».

Калегі і сябры, згадваючы Віталя Сіліцкага, спрабавалі знайсці карані яго выбітнасці — адукацыя, акружэнне, бацькі... Але слова ўзяла маці Віталя Сіліцкага і падвяла грунтоўную рысу:

— Я хачу падзякаваць усім, хто памятае Віталя і хто быў з ім у цяжкую гадзіну. Ад самага маленства ён быў цікаўным, лёгка ўсім захапляўся. Спачатку я думала, што будзе спеваком, бо меў добры голас, потым захапіўся нейкімі латарэйкамі, і я думала, што вырасце якім махінатарам (на першы выйгрыш з латарэі Віталь набыў кнігу «Вянок» Максіма Багдановіча — аўт.). Але пасля пайшоў у навуку, і нават хацеў сысці з БДУ ў расійскі універсітэт, бо казаў, што там яму не цікава і надта лёгка вучыцца. Вы шукаеце, адкуль пайшла выбітнасць Віталя. Ніадкуль! Ні я гэта прышчапіла, ні хто іншы. Бог пацалаваў яго ў макаўку.

***

Сябры і калегі Віталя ўтварылі камітэт у гонар ягонай памяці. У камітэт увайшлі каля трыццаці вядомых беларускіх і замежных грамадскіх і навуковых дзеячаў. Сярод мерапрыемстваў па ўвекавечанні памяці — стыпендыя і прэмія імя Сіліцкага, выданне шэрагу яго кніг, стварэнне бібліятэкі з кніг з асабістага фонду Віталя Сіліцкага і яго знаёмых, дабрачынная акцыя імя Віталя Сіліцкага.

СУСТРЭЧА

## ПАФАЛА ПРА БЕЛАРУСЬ

Генадзь КЕСНЕР

**У Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (Літва) адбылася сустрэча кіраўніка ведамства федэральнага канцлера Германіі Ангелы Меркель Рональда Пафалы з журналістамі.**

Месца прэс-канферэнцыі высокі германскі чыноўнік патлумачыў тым, што не паедзе ў Беларусь да таго часу, пакуль там будзе хоць адзін палітычны зняволены. А яшчэ Рональд Пафала казаў пра патэнцыял беларускай апазіцыі:

— Узровень рэпрэсіяў у сённяшняй Беларусі настолькі катастрафічны, што ўсё роўна, хто б сёння ні працаваў на палітычным апазіцыйным полі, ён не змог бы працаваць беспаршкодна. Зноў ёсць палітычныя зняволеныя, зноў ёсць рэпрэсіі, зноў ёсць арышты. Гэта цалкам непрымальная сітуацыя, ва ўмовах такога ўзроўню рэпрэсіяў і запалохванняў не можа быць паўнавартаснай эфектыўнай палітычнай апазіцыі, праца якой была б плённай.

Распавёў Рональд Пафала і пра стратэгію Еўропы ды перспектывы супрацоўніцтва: «Зараз крокі павінен рабіць Лукашэнка. Ён павінен вызваліць палітвязняў, ён адказны за тое, што ў Беларусі ёсць несвабода, страх, рэпрэсіі. Таму зусім не зразумела, чаму гэта з нашага боку павінны быць задзейнічаны нейкія механізмы ўзаемадзеяння да таго часу, пакуль прэзідэнтам не будуць выкананы пэўныя ўмовы. Пакуль сітуацыя не палепшыцца, ніякага паляпшэння ў нашых стасунках не будзе. Беларусь — цудоўная краіна, якая належыць да Еўропы, і гэта вялікая трагедыя, што ёю кіруе прэзідэнт, які вядзе яе ў адваротным кірунку ад Заходняй Еўропы. Хоць Беларусь магла б стаць вельмі важным мостам паміж Еўрасаюзам і іншымі часткамі нашага кантынента».

Пра смяротнае пакаранне Рональд Пафала сказаў:

— Наяўнасць смяротнага пакарання ў Беларусі — абуральны факт. Смяротнае пакаранне несумяшчальнае з праваой дзяржавай. А ў Беларусі мала таго, што выносяцца смяротныя прысуды, дык яны і прыводзяцца ў выкананне. Не так даўно мы перажылі страшэнны выпадак — прыведзены ў выкананне расстрэльны прысудаў у дачыненні да двух маладых чалавек, якіх абвінавацілі ў тэракце ў метро. Але, што яшчэ больш жахліва і абуральна, з якой хуткасцю прысуды былі прыведзены ў выкананне. Прычым, насуперак шматлікім пратэстам. Такой хуткацечнасці мне не даводзілася бачыць ніколі ў жыцці. З нашага гуманістычнага падыходу, чалавечае жыццё — самая вялікая каштоўнасць.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КАМУСЬЦІ НЕ ПАШАНЦАВАЛА…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Сапраўды, камусьці пашанцавала на гэтым тыдні, а камусьці — не. Што зробіш — звычайнае жыццё. Але гэтым разам тым, каму пашчасціла, пашчасціла вельмі крута. А тым, каму не пашчасціла, — таксама аблом выйшаў капітальны.**



Моцна пашанцавала зняволеным. Зараз мы ўжо ўпэўненыя, што амністыя ў гэтым годзе адбудзецца, бо 12 чэрвеня Лукашэнка правеў нараду па пытаннях амністыі. Паводле папярэдніх ацэнак, з месцаў пазбаўлення волі могуць выйсці прыблізна 2,8 тысячы чалавек. Больш як 7 тысяч асуджаных плануецца ў межах амністыі скараціць на год тэрмін пакарання.

Калі прапанаваны варыянт закона будзе ўхвалены прэзідэнтам, ужо ў ліпені на волю выйдуць непаўналетнія, цяжарныя жанчыны, жанчыны і адзінокія мужчыны, якія маюць непаўналетніх дзяцей, інваліды I і II груп, хворыя на анкалагічныя захворванні, удзельнікі ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС і пацярпелыя ад катастрофы на ЧАЭС, а таксама ветэраны баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў. Акрамя таго, ад пакарання могуць быць вызвалены асобы, якія ўчынілі злачынствы, што не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі, і злачынствы, што адносяцца да катэгорыі менш цяжкіх, але пры ўмове кампенсавання прычыненага ўрону.

А вось каму не пашанцавала, дык гэта палітычным вязням. Наўрад ці хто з іх патрапіць пад гэтую амністыю. «Мы праводзім амністыю ў нашай дзяржаве і для нашага грамадства. Гэта і сігнал грамадству, і заахвочванне зняволеных. Ніякай палітыкі тут быць не павінна», — заявіў Лукашэнка. Ён дадаў, што «усё павінна быць сумленна». «Для гэтага трэба вызначыць крытэры. Згодна з гэтымі крытэрыямі мы і павінны дзейнічаць: хтосьці трапляе пад амністыю па гэтых крытэрыях, ці для яго тэрмін адбывання пакарання павінен быць скарочаны. І «нацягваць» туды людзей, якія не павінны выходзіць, у тым ліку паводле нейкіх палітычных матываў, ні ў якім выпадку нельга», — сказаў Лукашэнка.

Праваабаронцы, між тым, самі адзначылі, што шанцы на вызваленне «палітычных» вельмі малыя. Зыходзячы са стандартных тэкстаў законаў аб амністыі, пад яе трапляюць тыя, хто асуджаны першы раз, паўстаў на шлях выпраўлення, не мае спагнанняў у калоніі і маёмасных або фінансавых прэтэнзій. Але практычна ж усе палітзняволеныя — «злосныя парушальнікі, якія не ўсталі на шлях выпраўлення». Напрыклад, Статкевіч і Аўтуховіч былі за парушэнні ў калоніі пераведзены ў крытыя турмы, Мікалай Дзядок знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу, на Эдуарда Лобава «павесілі» парушэнні ў калоніі, асуджаныя анархісты ўчынілі «асабліва небяспечныя дзеянні», Дзмітрый Дашкевіч не вылазіў са штрафных ізалятараў, як і іншыя асуджаныя.

Больш за тое, усе «знакавыя» палітзняволеныя — такія, як Дашкевіч, Севярынец, Аўтуховіч, Статкевіч, — ужо былі судзімыя раней, і да іх у той ці іншай форме амністыя ўжо была прыменена. Другі раз, бо яны «рэцыдывісты», амністыя да іх не прымяняецца.

Але надзея ўсё ж памірае апошняй. Прыкладам, праваабаронца Алег Волчак чакае тэксту ўказу аб амністыі. Ён не выключае юрыдычных казусаў, бо той жа Аўтуховіч, з аднаго боку, ветэран баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, а з іншага — «рэцыдывіст і злосны парушальнік». Як у гэтым сэнсе будзе выконваца амністыя, невядома.

У той жа час не пашанцавала і самому Лукашэнку. Заявы пра амністыю і адсутнасць «палітыкі» ён зрабіў у той час, калі ў Беларусі знаходзіліся прадстаўнікі службы знешнепалітычнай дзейнасці Еўрасаюза Джон К'яер і Стэфан Трэсінг. Яны сустрэліся з прадстаўніком Міністэрства замежных спраў, актывістамі грамадзянскай супольнасці і апазіцыі, а таксама з акрэдытаванымі ў Мінску пасламі краін Еўрасаюза. Актывістам грамадзянскай супольнасці яны заявілі, што Еўрасаюз вітае вызваленне Дзмітрыя Бандарэнкі і Андрэя Саннікава, але гэта не азначае, што пытанне палітзняволеных знятае з парадку дня. І пакуль у Беларусі не застанецца ніводнага палітзняволенага, да таго часу яно будзе прыярытэтным для Еўропы.

Паводле вынікаў візіту ў Мінск К'яер і Трэсінг падрыхтуюць даклад аб сітуацыі ў Беларусі, які будзе пакладзены ў аснову рашэнняў Савета міністраў краін ЕС адносна Беларусі.

Не пашанцавала замежным гасцям Беларусі. У нашу краіну не змаглі трапіць некаторыя ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі Партыі еўрапейскіх левых (ПЕЛ) «Дэмакратыя і эканамічны крызіс», што адбылася ў Мінску 9–10 чэрвеня. Візавыя службы Беларусі адмовілі ва ўязных візах Іржы Худзерчыку з Чэхіі, а таксама Сяргею Юргенсу і Уладзіміру Кручыніну з Эстоніі. Яшчэ адзін удзельнік, Педра Марсет Кампас з Іспаніі, прыляцеў у нацыянальны аэрапорт Мінск з надзеяй атрымаць візу непасрэдна там, але не змог гэтага зрабіць: яго аштрафавалі на 90 еўра і адправілі самалётам назад.

Але тым жа часам пашанцавала беларускім калегам ПЕЛ — Сяргею Калякіну і ягонай партыі «Справядлівы свет». Паводле слоў Калякіна, арганізатары «баяліся, што ў сувязі з адмовай у выдачы віз выканкам ПЕЛ прыме рашэнне аб нямэтазгоднасці правядзення канферэнцыі ў Мінску». «Але, наадварот, у гэтай сітуацыі ПЕЛ вырашыла актывізаваць і пашыраць магчымасці правядзення мерапрыемстваў тут, нягледзячы на супрацьдзеянне ўладаў. Улады сваімі мерамі саслужылі сабе дрэнную службу, а для нас зрабілі пабліцыці ў многіх еўрапейскіх краінах. У Еўропе лічылі Лукашэнку з яго рытарыкай ледзь не сацыялістам, а гэтыя дзеянні проста выкрылі яго самога», — маркуе Сяргей Калякін.

Не пашанцавала вайскоўцам. У Гродзенскай вобласці 12 чэрвеня разбіўся ваенны самалёт Су–25 116-й штурмавой авіябазы. Як паведамляе прэс-служба Мінабароны, крушэнне адбылося пры выкананні планавых палётаў у раёне авіяцыйнага палігона. Загінуў пілот — ваенны лётчык 1-га класа падпалкоўнік Мікалай Грыднеў. З-за гэтага загадам міністра абароны Беларусі Юрыя Жадобіна ўведзена забарона на палёты ўсёй авіяцыі Узброеных сіл. Забарона на палёты будзе дзейнічаць да заканчэння работы камісіі, якая займаецца расследаваннем прычын катастрофы штурмавіка.

З 30 жніўня 2009 года, даты першай катастрофы ў беларускай ваеннай авіяцыі з чалавечымі ахвярамі пасля больш чым 12-гадовага паспяховага перыяду, ВПС і войскі СПА Беларусі страцілі ўжо восем лётчыкаў і пяць баявых машын.

Але ж, тым не менш, размова аб адмене паветранага складніка ваеннага парада ў гонар Дня Незалежнасці 3 ліпеня не ідзе, і ваенная авіяцыя будзе на ім прадстаўленая. «Усё, што было запланавана, усё застаецца. Будуць адбывацца палёты, падрыхтоўка авіяцыі, усё іншае», — кажа кіраўнік прэс-службы міністэрства Уладзімір Макараў.

Так што на парад хадзіць не варта. Калі на вас не зваліцца самалёт — лічыце, вам пашанцавала.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### НАДЗЕЯ ЕРМАКОВА

Нацыянальным банкам Беларусі прынята рашэнне на працягу 1,5 гады паступова выключыць з абарачэння 10-рублёвыя і 20-рублёвыя купюры. У хуткім часе можа быць прынята рашэнне і аб акругленні цэн да 50 рублёў. Пры гэтым правядзенне дэнамінацыі кіраўнік Нацбанку Надзея Ермакова лічыць заўчасным, — перадае БелаПАН.

«У цяперашняй сітуацыі, калі захоўваецца высокі ўзровень інфляцыі, калі неспакойна на сусветных рынках, дэнамінацыю праводзіць нельга. Тым больш што банкноты пакуль яшчэ змяшчаюцца ў нашы кашалькі, а нулі — у акенцы калькулятараў і камптутараў. Таму, напэўна, не ў гэтым годзе, толькі ў 2013-м можна будзе пачынаць размову аб дэнамінацыі», — сказала Надзея Ермакова. Кіраўніца Нацбанку звярнула ўвагу, што падрыхтоўчы перыяд для правядзення дэнамінацыі патрабуе больш за паўгода і нямала срокаў.

### IOWA

Гурт IOWA, які быў заснаваны ў Магілёве і складаецца з беларусаў, стаў адкрыццём года ў Расіі. Ужо некалькі месяцаў IOWA ў гарачай ратацыі на радыёстанцыях 150 гарадоў Расіі і ўсіх расійскіх музычных каналах. Музыкі зрабілі фурор у праграме «Чырвоная зорка» (расійскі «Першы канал»), а ў ліпені будуць прадстаўляць Расію на фестывалі «Новая хвала 2012» у Юрмале. Цяпер музыкі працуюць у Санкт-Пецярбургу.

Гітарыст гурта IOWA Леанід Цярэшчанка і вакалістка Каця Іванчыкава распавялі інтэрнэт-рэсурсу *naviny.by*, што самі пішуць матэрыял песень. Пачыналі музыкі з выступаў у клубах Магілёва. Затым з'ездзілі на некалькі канцэртаў у Санкт-Пецярбург і неўзабаве пераехалі туды назусім.

«У Лёні была музычная школа, потым музычнае вучылішча па класе гітары. Дарэчы, ён пераможца міжнароднага конкурсу па класічнай гітары ў Белградзе. А я чым толькі ні займалася — харэаграфія, акадэмічны вакал, фартэпіяна. Потым вучылася ў мінскім БДПУ імя Танка — філолаг, журналіст. Падчас вучобы ўдзельнічала ў конкурсе «Зорны дыліжанс», затым прайшла кастынг у мюзікл «Прарок». Пасля гэтага вярнулася ў Магілёў і там з'явілася IOWA, — распавяла Каця Іванчыкава пра станаўленне гурта. — Спачатку гралі рок-музыку, была ў нас нават песня «Час забіваць». Потым нас павяло ў больш лёгкі і пазітыўны бок. Магчыма, калі-небудзь вернемся да альтэрнатывы — мы робім тое, што нам падабаецца...»

Адказваючы на пытанне, ці змагла б група стаць вядомай, працягваючы працу ў Беларусі, Іванчыкава заўважыла, што «стаць папулярным можна ўсюды». «Іншая справа, што я не памятаю прыкладаў, калі вядомыя беларускія поп-артысты выйшлі за рамкі сваёй краіны, — працягнула артыстка. — Так што трэба адразу расстаўляць прыярытэты — калі хочаш заваяваць Расію, то трэба пераязджаць сюды і працаваць тут. Але нам асабліва прыемна, што наша музыка знаходзіць водгук і на радзіме. Тут ёсць момант таго, што расійскі рынак проста большы і разнастайнейшы па музыцы. Гэтаму наогул складана нешта супрацьпаставіць».



### СТАНІСЛАЎ САЛАЎЁЎ

Галоўны трэнер жаночай зборнай Беларусі па велатрэку Станіслаў Салаўёў раскрытыкаваў адміністрацыю велатрэка комплексу «Мінск-Арэна», дзе каманда будзе рыхтавацца да Алімпійскіх гульняў. «Падрыхтоўка да Гульняў быццам бы ідзе як трэба. Праўда, з боку адміністрацыі велатрэка хацелася б лепшага. Трэк брудны, пылу шмат, холадна, спартсмены захворваюць. Я прашу, каб за месяц перад Алімпіядай нікога, акрамя нас, не было тут. Іншыя спартсмены плююць, харкаюць на трэк, шкло, усё гэта выпараецца, у паветры лётае, а гэта бацылы, мікробы, так што захварэць могуць нашы спартсменкі на пустым месцы», — заявіў Салаўёў БелаПАН. Гэта ўжо не першы выпадак, калі Салаўёў выступае ў СМІ з прэтэнзіямі ў адрас адміністрацыі велатрэка. Да прыкладу, восенню 2011 года ў прэсе паміж ім і дырэктарам веладрома Галінай Забур'янавай разгарнулася вострая палеміка з узаемнымі абвінавачаннямі. У той жа час лідар беларускай зборнай Таццяна Шаракова заявіла БелаПАН, што ўмовы для працы на веладроме «Мінск-Арэны» добрыя. Што тычыцца непасрэдна Алімпіяды, то Салаўёў не захацеў даваць прагнозы і адмовіўся абмяркоўваць медальныя задачы, пастаўленыя Міністэрствам спорту і турызму.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА БЕЛАРУСКАЙ УЛАДЫ

Сяргей НІКАЛЮК

**На прэзідэнцкіх выбарах у 2010 годзе родная дзяржава даручыла падлічваць галасы выбарцаў 48 307 жанчынам і 22 508 мужчынам. Фемініісткі адпачываюць.**




У свой час бацька-заснавальнік сучаснай эканамічнай навукі Адам Сміт казаў: «За выключэннем лічбаў, няма нічога больш падманлівага, чым факты». Чаму факты валодаюць такой нечаканай здольнасцю? Па той жа прычыне, па якой за дрэвамі не бачна лесу. Звернемся, напрыклад, да факту, максімальна набліжанага да побытавага ўзроўню: выйшаў увечары чалавек у двор папаліць. А тут да яго падыходзяць двое, прад'яўляюць пасведчанні і просяць прайсці ў аддзяленне міліцыі.

Далейшы ход падзей беларусу ўявіць нескладана, бо набор варыянтаў абмежаваны. Няўдачлівага курца паінфармуюць, што ў перапынках паміж зацяжкамі ён нецэнзурна лаяўся, а калі да яго падышлі працаўнікі праваахоўных органаў, пачаў іх абражаць. Набор варыянтаў, як я ўжо адзначыў, абмежаваны. Замест абвінавачвання ў нецэнзурнай лаянцы можа быць прад'яўлена абвінавачванне ў здзяйсненні малой патрэбы. Выпадкі абвінавачвання ў здзяйсненні вялікай патрэбы асабіста мне не вядомыя.

Далей — КПЗ (курэц, нагадаю, быў затрыманы ўвечары), а ўжо на наступны дзень самы гуманны суд у свеце вынесе прысуд у выглядзе адміністрацыйнага арышту. Чытачам, якія цікавяцца дэталямі, рэкамендую звярнуцца да дырэктара Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў, прафесара Еўрапейскага ўніверсітэта ў Санкт-Пецярбургу Аляксея Пікуліка. Думаю, яго ўражанні ад зносін з прафесійнымі ахоўнікамі права яшчэ не страцілі непасрэднасці і экспрэсіі, якія фармуюцца пад уплывам значных падзей, што адбыліся ў жыцці ўпершыню. Дый часу з дня арышту прайшло няшмат: свой вердыкт суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес 1 чэрвеня. Але якога кшталту лес хавае ад нас гэты факт?

## Мыліцы для неэфектыўнасці

1 чэрвеня мінула 40 гадоў з дня трагедыі ў Новачаркаску. Падзеі развіваліся імкліва. У першы дзень лета пачаўся страйк на электравозабудаўнічым заводзе, справакаваны спалучэннем дзвюх прычын: падвышэннем коштаў на мясныя і малочныя прадукты ў сярэднім на 30% і павелічэннем амаль на траціну нормаў выпрацоўкі. Ужо на наступны дзень працоўныя, якія сабраліся ў цэнтры горада перад будынкам гаркама партыі, былі расстраляныя з кулямётаў.

Каб знайсці агульнае паміж сучаснасцю і фактамі, што паспелі стаць гісторыяй, нам спатрэбіцца цытата з Вікіпедыі: «Інфармацыя пра новачаркаскія падзеі ў СССР была засакрэчана па рашэнні Прэзідыума ЦК КПСС. Першыя публікацыі з'явіліся ў адкрытым друку толькі ў канцы 1980-х гадоў — у перабудову. Падчас даследавання дакументаў і сведчанняў відавочцаў было ўстаноўлена, што частка дакументаў знікла, ніякіх пісьмовых распараджэнняў не знойдзена, а гісторыі хвароб шматлікіх пацярпелых зніклі».

Сярэднявечным кіраўнікам на месцы камуністычных босаў і ў галаву б не прыйшло засакрэчваць падзеі такога кшталту. Расправы з незадаволенымі ладзіліся публічна, а іх адсечаныя галовы выстаўляліся на ўсеагульны агляд. Галовы сякуць і сёння, але выстаўляць іх напаказ у большасці краін не прынята. Свет гуляе ў дэмакратыю і гуманізм. Хтосьці гуляе сур'ёзна. Хтосьці толькі імітуе гульню. Адкрыта парушаць правілы адважваюцца толькі краіны, багатыя нафтай.

Бацькі-заснавальнікі СССР шчыра спадзяваліся, што камунізм пераможа ва ўсім свеце, таму што за ім Праўда. Але вельмі хутка высветлілася, што несці яе ў масы можна толькі пры дапамозе вялікай Хлусні. Расстрэлу ў Новачаркаску папярэднічала чарговае падвышэнне коштаў. Зразумела, па «просьбах працоўных». Эфектыўнасць не мае неабходнасці ў тлумачэнні — яна самадастатковая. Неэфектыўнасць жа без сілавых і прапагандысцкіх мыліц не можа існаваць.

Час уносіць свае карэктывы. Тлумачыць рост коштаў просьбамі працоўных улада ўжо не адважваецца. Яна яго тлумачыць жаданнем насельніцтва *«скупить уксус, спички, спирт и прочее»*. Для тых жа, хто публічна ставіць пад сумнеў такі ўзровень афіцыйнай аналітыкі, і існуюць у краіне работнікі, якія прафесійна ахоўваюць правы (правы ўлады адназначна вырашаць, што лічыць Праўдай, а што Хлуснёй).

## Быццам ластаўкі на дроце

Але спусцімся з макраўзроўню на ўзровень канкрэтнага чалавека і зададзім класічнае пытанне: «А суддзі хто?» Перада мной апошні дадатак да спісу беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у Еўрасаюз. Сярод дваццаці суддзяў пятнаццаць — жанчыны (75%)! Цікавая статыстыка, калі ўлічыць, што сярод беларускіх суддзяў жанчыны складаюць 56%.

**Адказнасць за сям'ю і дзяцей ляжыць на жанчыне ў большай ступені , чым на мужчыне. Груз адказнасці і прымушае «слабы пол» пасіўна адаптавацца да неспрыяльных умоў**

Паводле артыкула 6 Канстытуцыі, «дзяржаўная ўлада ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове падзелу яе на заканадаўчую, выканаўчую і судовую». У выканаўчай уладзе ў нас дамінуюць мужчыны. У парламент, пасля таго, як «адзіны палітык» рэкамендаваў паднядь працэнт жанчын да 30%, прыкладна такая колькасць прадстаўніц слабага полу і абіраецца.

Інстытут улады не з'яўляецца вынаходкай homo sapiens. Мы атрымалі яго ў спадчыну ад нашых найбліжэйшых біялагічных сваякоў. Самы важны занятак самцоў у зграях малпаў — барацьба за ўладу. Хто дасягнуў у ёй поспеху — той і аплядняе самак. Але заваёва ўлады — гэта палова справы. Неабходна ўмець яе утрымаць. Прывяду каларытную цытату з кнігі «Эталагічныя экскурсіі па забароненых садах гуманітарыяў» Віктара Дольніка: «Павіян, які дасягнуў вяршыні ўлады, не спрашчае сабе жыццё. Яму ўвесь час здаецца, што ў зграі няма належнага парадку. Ён сядзіць на ўзвышшэнні і грозна хмурыць бровы то на адну малпу, то на другую. Час ад часу даводзіцца пагражаць кулаком, стукаць сябе ў грудзі, паказваць зубы, паляпваць сябе па геніталіях, клікаць то аднаго, то другога самца і прымушаць прыняць адну з пастаў падпарадкавання: апусціць галаву, пасці ніцма, устаць у зневажальную для самца позу самкі пры спарванні».

Чаму ж тады на судовай галіне ўлады, быццам ластаўкі на дроце, так шчыльна ўладкаваліся жанчыны? Для адказу на гэта пытанне і для далейшага блукання па закутках азбукавых думак нам прыдасца слова «канфармізм» (ад лац. «conformis» — «падобны») — прыстасаванства, пасіўнае прыняцце існага парадку, пануючых меркаванняў і інш.

## У дыяпазоне ад 15 да 450 вольт

Немагчыма ўявіць сабе падручнік па сацыяльнай псіхалогіі, у якім не згадваліся б эксперыменты Стэнлі Мілграма па вывучэнні канфармізму. Прывяду адну з высноў, якая ў свой час агаломшыла амерыканскае грамадства: «Калі б у Злучаных Штатах была створана сістэма лагераў смерці на ўзор нацысцкай Германіі, адпаведны персанал для гэтых лагераў можна было б набраць у любым амерыканскім горадзе сярэдняй велічыні».

Коратка распавяду сутнасць эксперыменту, які стаў, нам думку сацыёлага Лі Роса, «часткай інтэлектуальнай спадчыны чалавецтва». Эксперыментатар тлумачыць падыспытнаму, што ён бярэ ўдзел у наватарскім даследаванні эфекту пакарання пры навучанні. Для эксперыменту патрэбна, каб адзін удзельнік эксперыменту навучыў іншага парным словам і караў за памылкі, наносячы ўдары электрычным токам, інтэнсіўнасць якога ўсё нарастае. У якасці «настаўнікаў» набіралі добраахвотнікаў, якія прыйшлі па аб'яве. «Вучня» (супрацоўніка Мілграма) саджалі ў фатэль і да яго запясцяў прымацоўвалі электроды. Усё гэта рабілася на вачах «настаўніка». Пасля чаго «настаўнік» уладкоўваўся ў суседнім пакоі за пультам генератара з пераключальнікам у дыяпазоне ад 15 да 450 вольт.

Эксперыментатар загадваў «настаўніку» пераключаць генератар на адну прыступку вышэй кожны раз, калі «вучань» даваў няслушны адказ. У дыяпазоне ад 75 да 105 вольт «вучань» пачынаў енчыць (зразумела, гэта быў розыгрыш), пры 120 вольтах — крычаць, што яму балюча, 150 вольтах — маліць спыніць эксперымент, пры 270 вольтах яго пратэсты пераходзілі ў агянізуючы крык. Пры 300–315 вольтах «вучань» крычаў, што адмаўляецца адказваць. Пасля 330 вольтаў змаўкаў. На прапанову «настаўніка» перапыніць працэдуру эксперыментатар заяўляў, што адсутнасць адказу павінна расцэньвацца як няслушны адказ.

Як далёка заходзілі «настаўнікі»? 63 працэнта — да мяжы ў 450 вольт! Зразумела, што я выказаў самую агульную схему эксперыменту. Д'ябал ўласціва хавацца ў дэталях. Змяняючы дэталі (блізкасць/аддаленасць эксперыментатара, яго аўтарытэтнасць — у якасці эксперыментатара мог выступаць прафесар ці лабарант і г.д.) Мілграм атрымліваў дыяпазон падатлівасці ў межах ад 0 да 93%.

## 68,2% VS 31,8%

Здольнасць падпарадкоўвацца аўтарытэту — адна з базавых характарыстык чалавека. У «настаўнікі» Мілграм адбіраў мужчын, але няма падстаў сцвярджаць, што жанчыны ў меншай ступені схільныя да падпарадкавання. Што б мы ні казалі, але ў нашай культуры адказнасць за сям'ю і дзяцей ляжыць на жанчыне ў большай ступені, чым на мужчыне. Груз адказнасці і прымушае «слабы пол» пасіўна адаптавацца да неспрыяльных умоў.

Нездарма ўчастковыя выбарчыя камісіі фармуюцца ў Беларусі пераважна з жанчын. На прэзідэнцкіх выбарах у 2010 годзе родная дзяржава даручыла падлічваць галасы выбарцаў 48 307 жанчынам і 22 508 мужчынам (68,2% VS 31,8%). Перавага больш чым удвая! Фемініісткі адпачываюць.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што мужчыны аддаюць перавагу заняткам, якія ўзмацняюць дысананс (пракурор, спецыяліст у галіне рэкламы). Жанчыны, наадварот, імкнуцца да занткаў, якія дысананс змяншаюць (адвакат, сацыяльны работнік). Пра сваю нелюбоў да тых, хто *«устраивает скандалы и разборки»* (дысанансы) нядаўна выказалася нязменны старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына: *«У меня не поднимется рука приказать хоть кому-то включать в состав комиссии человека, который пил кровь избирательной комиссии на предыдущих выборах»*.

Парламент, як вядома, — не месца для дыскусій. Навошта разводзіць абмеркаванні і ў выбарчых камісіях, тым больш эмацыйныя? Улада імкнецца самаўзнаўляцца ў спакойна-інтымнай атмасферы. А для гэтага падбіраюцца *«нормальные, хорошие, достойные люди, которые себя хорошо зарекомендовали»*. Сярод homo sapiens з такімі характарыстыкамі пераважаюць жанчыны.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПРАТЭСТ СЯРЭДНЯГА КЛАСА

Вольга ХВОІН

**У Расіі працягваюцца акцыі пратэсту супраць «пуцінізацыі» дзяржавы. У адрозненні ад Беларусі, на вуліцу з пратэстнымі настроямі выходзяць забяспечаныя людзі, блізкія да сярэдняга класу, інтэлігенцыя. Расіяне цяпер выступаюць за ўласныя правы, беларусы ж пакуль змагаюцца за сваю кішэню.**

Летась з беларускімі «маўклівымі» акцыямі пратэсту некаторыя звязвалі сціплыя спадзевы на абуджэнне людзей, іх гатоўнасць адстойваць свае правы. Аднак эканамічныя бунты хутка гаснуць — дастаткова ўладам толькі крыху палепшыць дабрабыт ці хаця б стабілізаваць сітуацыю. Што ў прынцыпе і было зроблена, і адразу ж рэйтынг беларускай улады папаўзлі ўверх.

У Расіі цяпер пратэстуе сярэдні клас, пратэстуе не супраць пустых лядоўняў, бо ў гэтых людзей акурат ёсць што пакласці на бутэрброд, а за выкананне сваіх правоў, магчымасць мець прадстаўнікоў сваіх інтарэсаў у органах дзяржаўнага кіравання.

Падзеі ў Расіі цяпер многія параўноўваюць з беларускімі — вобшукі, затрыманні, новы закон аб мітынгах. Ксенія Сабчак, адна з расійскіх медыйных персон, удзельніца пратэстных акцый, нядаўна бадзёра спявала пра Мядзведзева: *«спасибо, что не бот»*, а цяпер асэнсоўвае рэчаіснасць пасля вобшуку ва ўласнай кватэры і канфіскацыі ўнушальнай сумы грошай. Беларусы ўжо не першы год жывуць ва ўмовах «кроку ўлева, крок управа...», расійскі незадаволены сегмент грамадства толькі звыкаецца. Але ці звыкнецца?

У аўторак на вуліцы Масквы на «Народны марш», паводле ацэнкі арганізатараў, выйшлі не менш за 120 тысяч чалавек. Паліцыя гаворыць пра 18 тысяч удзельнікаў. На мітынгу прадстаўнікі апазіцыі з гумарам пагаджаліся з такой лічбай — за перавышэнне заяўленай колькасці ўдзельнікаў мітынгу ім трэба было б заплаціць высокі штраф. Да слова, спецыяліст па кампутарным зроку Анатоль Кац распрацаваў адмысловую праграму падліку колькасці ўдзельнікаў маніфестацый. Праграма выдала свой вердыкт — у шэсці ўдзельнічалі 54 000 чалавек. Аўтар методыкі ўдакладняе, што максімальная хібнасць можа складаць плюс-мінус 10% з-за таго, што калоны часта спыняліся, а шчыльнасць пасажырапатоку час ад часу змянялася.

З беларускага досведу маскоўскаму шэсцю і мітынгу аўторка можна было б прарочыць разгон, але выглядае на тое, што яшчэ не час. Ды і ўмовы іншыя — расійскі пратэст не базуецца на тых, хто жыве ў сваім, адколатым ад дзяржавы свеце. У выніку дэманстранты не толькі прайшлі па Маскве, але і прынялі «Маніфест свабоднай Расіі» з патрабаваннямі адправіць Пуціна ў адстаўку; падрыхтаваць новы закон аб выбарах, прыняць парламенту новае выбарчае заканадаўства, правесці па новаму закону выбары; новаму парламенту вынесці на рэферэндум праект новай Канстытуцыі, які абмяжоўвае паўнамоцтвы і тэрмін знаходжання на пасадзе прэзідэнта; прыняць новыя законы аб мясцовым самакіраванні і прамых свабодных выбарах губернатараў. Кантроль за гэтымі працэсамі мусяць узяць на сябе наватвораныя грамадзянскія органы, у тым ліку «круглыя сталы». Народ патрабуе дзяржаўных рэформаў. Расійскі левы палітычны дзеяч, лідар руху «Авангард чырвонай моладзі» Сяргей Удальцоў запатрабаваў вызваліць палітвязняў. Ён жа прапанаваў да восені падрыхтаваць «вырашальную акцыю па ўсёй краіне». Грамадскі дзеяч Алена Папова спрагназавала сацыяльны пратэст, які ў сілу эканамічных прычынаў мусіць прыйсці ў Расію прыкладна праз 1,5 гады.

Расійскі палітолаг Дзмітрый Арэшкін піша, што пратэстныя настроі ў расійскім грамадстве — натуральны вынік: «Пуцін загнаў сябе ў кут. Сацыяльная апора сціскаецца як шчыгрынавая скура, эканоміка трашчыць, вертыкаль кінула маляваць карцінкі светлай будучыні і занятая выключна самаабаронай. Усе прадказальна». Разам з тым палітолаг падкрэслівае, што спробы аднавіць «савецкую мадэль татальнага менеджменту» не магчымыя без «тэрору ўверсе і ўнізе, кулямётаў на вуліцы, цэнзуры, «філасофскага парахода» і «жалезнай заслоны». «Па той простай прычыне, што ілжывая сістэма кампоўнасцяў і ілжывая прапаганда асуджаныя на паразу ў сутычцы з фактамі і кваліфікаванымі экспертамі. І вы — калі шчыра — гэта выдатна ўсведамляеце. Інакш навошта адціраць ад выбараў талковых апанентаў, і ў дадатак яшчэ фальсіфікаваць вынікі нават такой выродлівай гонкі? Аднак тэрору не хочацца. Хочацца, каб чысценька. Каб як у Сталіна, але без расстрэлаў. Вось калі б яны першымі пачалі, а мы б толькі вымушаныя былі адказваць... Ну, дзеля захавання законнасці і парадку... Вы мяне зразумелі, калегі? А то нешта апазіцыянераў зашмат развялося», — піша Дзмітрый Арэшкін у *«Новой газете»*.

«Калі меркаваць па тым, як рэагуюць расійскія ўлады, а яны там аўтарытарныя, можна гаварыць пра больш выверану, чым у Беларусі, пазіцыю. Мне падаецца, што там пакуль маштабна не прымяняецца грубая сіла. Ёсць тактыка біць рублём, ёсць прэвентыўны аўтарытарызм, каб збіць хвалю пратэсту, — параўноўвае беларускі і расійскі супрацьў уладам палітолаг Алесь Лагвінец. — Унутры Расіі ёсць больш уласных сродкаў, каб арганізоўваць пратэсты. Тая сума канфіскаваных грошай у Ксеніі Сабчак (1,5 мільёна еўра — аўт.) паказвае, што людзі маюць свой рэсурс, каб заангажоўвацца ў пратэст. Для Беларусі гэта будзе магчымым яшчэ не хутка. Гэты пратэст сярэдняга класа так ці інакш будзе праяўляцца далей, хаця пратэстоўцы ні там, ні ў нас пакуль не карыстаюцца падтрымкай большасці. Але працэс будзе працягвацца, бо ёсць незадаволенасць уладаю і не бачна шляхоў, каб гэта можна было змяніць. Частка дэмакратаў у Беларусі сочыць за тым, што адбываецца ў Расіі, і, магчыма, будзе нешта запазычваць. Тым больш, некаторыя ў нас кансультуюцца ў расійскіх паліттэхнолагаў. Падзеі ў Расіі могуць павесці Беларусь да збліжэння з Захадам, да надання ўвагі нацыянальнаму чынніку. Увогуле, я перакананы, што Беларусі так ці інакш наканавана развіваць адносіны з Захадам, незалежна ад таго, як будуць развівацца падзеі. Калі ж будзе заходні чыннік, то будзе і патэнцыял да пераменаў унутры Беларусі».

Увогуле, прымаючы да ўвагі страх Аляксандра Лукашэнкі за ўласную ўладу, калі пад бокам у суседзяў пачне разгарацца вогнішча сацыяльных рэвалюцый, можна чакаць узмацнення кантролю над любымі праявамі іншадумства ці несанкцыянаванасці зверху. У прынцыпе, гэта ёсць і цяпер — прыгадаем бязглуздыя затрыманні ў часе канцэртаў, тэатральных пастановак. Але памятаем: няма мяжы дасканаласці, на жаль, і ў кантралюючых функцыях дзяржавы.



КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ПАРТЫЯ НОВАГА ТЫПУ

**Па гарадах і райцэнтрах прайшла хваля справаздачных сходаў нізавых арганізацый РГА «Белая Русь». Палітычным лозунгам «бягучага моманту» стаў слоган: «Белая Русь» — арганізацыя рэальных спраў.**



Як кажуць, просценька, але з густам. Гэтая арганізацыя з'яўляецца крывёй ад крыві, плоцць ад плоці «вертыкалі ўлады». Калі менш лаяльным да рэжыму арганізацыям (у лепшым выпадку) не аказваецца ніякая матэрыяльная і маральная дапамога, а хаця б не практыкуецца іх паліцэйскі пераслед, то яны і за гэта славяць Пана Бога.

«Белая Русь» жа паводле персанальнага складу — тыя ж вертыкальшчыкі. Каб не быць галаслоўным, спашлемся на паведамленне аб справаздачны сходзе, якое змясціла раённая газета «Смалявіцкі край». У працы справаздачнай канферэнцыі прынялі ўдзел 44 дэлегаты, сярод якіх старшыні сельскіх выканкамаў, намеснікі кіраўнікоў па ідэалагічнай працы прадпрыемстваў і арганізацый раёна, а таксама старшыня райсавета Аляксандр Ляхоўскі. Мерапрыемства мусіла адбыцца ў чацвер, 31 мая. Такім чынам, 44 чыноўнікі-функцыянеры змарнавалі два працоўных месяца аднаго работніка, і, з улікам сярэдняга заробку па раёну, прынеслі бюджэту 5 800 000 рублёў непасрэдных страт.

У Беларусі налічваецца 118 раёнаў, многія з якіх нашмат буйнейшыя за Смалявіцкі. Прынамсі, Мінскі раён мае 169 тысяч насельніцтва — у чатыры разы болей. А гарадскія раёны сталіцы налічваюць яшчэ большую колькасць жыхароў. Калі 6 мільёнаў сярэдніх непасрэдных страт, якія прынесла справаздачная канферэнцыя невялічкага раёна, памножыць на іх агульную колькасць, мы атрымаем 708 мільёнаў рублёў. І гэта варта лічыць разліковым мінімумам. На самай справе выдаткі (калі ўлічыць нашмат вышэйшыя за сярэднія заробкі гарадскога чыноўніцтва) сягаюць за мільярд.

Вось так, яшчэ нічога не зрабілі, яшчэ толькі падступаюцца да стварэння партыі новага тыпу, якая мае доступ да ўсіх дзяржаўных рэсурсаў, а ўжо спустошылі нашы кішэні на цэлы мільярд!

Трэба абавязкова дадаць, што «Белая Русь» карыстаецца дзяржаўнымі рэсурсамі напоўніцу, але не мае магчымасці рабіць гэта ў самоце і адзіноце. У яе «прычэпе» БРСМ, Саветы ветэранаў, Саветы жанчын, розныя паўдзяржаўныя фонды, як, прыкладам, перажыўшы і халодную вайну, і савецкую ўладу Фонд міру. Кожнаму трэба даць, каб не згубіць статус «арганізацыі рэальных спраў».

І вось зараз з гэтай грамадскай арганізацыі спрабуюць зрабіць партыю. Партыю ўлады, якая, мусіць, мроіцца бацькам-заснавальнікам у выглядзе ці то бальшавіцкага падполля, якое прыйшло да ўлады, ці то ў выглядзе сталінскага ордэна мечаносцаў, у якім малодшыя падпарадкоўваюцца старэйшым. А ўсе разам служаць правадыру і гатовы выканаць кожны яго загад.

Дзіву даешся той выжывасці, з якой прабіваюць сабе дарогу вось такія бальшавіцкія ідэйкі, згодна з якімі партыі ўлады належыць будучыня і тое сённе, што табе больш патрэбна ці проста падабаецца. І нават нельга сказаць, як некалі, — цеснае кола гэтых рэвалюцыянераў, надта яны ад народа далёкія. Не, гэтыя зусім не далёкія. Мусіць, галоўная іх хіба і наша бяда — у іх страшэннай блізкасці да народа. Нават тая дзяячка, што параіла дзяўчатам ды кабетам не шлёндраць па вячэрніх вуліцах, а сядзець дома і варыць боршч, мае нейкія здольнасці да рэфлексіі. У многіх энтузіястаў ператварэння грамадскай арганізацыі ў палітычную партыю такой здольнасці няма. Узятыя разам і паасобку, без уліку іх палітычных і партыйных меркаванняў, яны выглядаюць як людзі сур'ёзныя і разумныя.

Прыкладам, медыкі Добрушскай райбальніцы, якія выказалі гэтую палітычную ініцыятыву, першымі ў краіне і аднагалосна за яе прагаласавалі. Магчыма, яны зрабілі так таму, што любяць Лукашэнку, ці таму, што ім загадалі таго любіць, ці таму, што вырашылі такім чынам падрыхтаваць для яго палітычную пастку.

Справа ў тым, што дзяржчыноўнікі не маюць па закону права быць сябрамі палітычных партый. Тое, што можа падыйсці Лукашэнку-пенсіянеру, зусім не стасуецца з яго цяперашняй пасадай. Тое ж самае можна сказаць і пра астатні грамадскі актыў «Белай Русі», які амаль цалкам рэкрутаваны вертыкальнымі структурамі. Выкарыстоўваць іх у якасці свядомага матэрыялу для партыйнага будаўніцтва немагчыма. Бо, згодна з Канстытуцыяй, у Беларусі няма месца для партыі новага тыпу, высокі статус у якой даваў бы больш улады, чым пасада ў адміністрацыі.

Але гэта не значыць, што такая партыя не можа быць створана людзьмі, якіх пазбавілі магчымасці займацца палітыкай. Сумнеўна, што ў падполлі, але цалкам верагодна, што дзе-небудзь за межамі Беларусі.

Прыклады таму былі паўсюль у гісторыі, сярод якіх аказалася даволі шмат паспяховых.

► ГЕАПАЛІТЫКА

# ДЗВЕРЫ НЕ ЗАМУРОЎВАЦЬ

Вольга ХВОІН

**Афіцыйны Мінск актывізаваў сваю працу ў рамках праграмы «Усходняе партнёрства». Эксперты мяркуюць, што на хвалі намеру навесці масты з Захадам улады Беларусі пастараюцца скарыстаць усе магчымыя інструменты.**


Фота БЕЛТА
Алёна Купчына

Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына прыняла ўдзел у нефармальнай сустрэчы «Усходняга партнёрства» (УП) у Кішынёве 5 чэрвеня. У рамках мерапрыемства былі абмеркаваныя пытанні, звязаныя са станам і перспектывамі супрацоўніцтва краін-партнёраў і Еўрапейскага саюза ў рамках праграмы «Усходняе партнёрства». У ходзе дыскусіі адбылося выступленне кіраўніка беларускай дэлегацыі, у якім былі закранутыя пытанні выбудоўвання дыялогу з Еўрасаюзам, а таксама развіцця «Усходняга партнёрства» на прынцыпах раўнапраўя і ўзаемапавагі.

Праграма беларускай дэлегацыі прадугледжвала таксама рабочыя сустрэчы Купчынай з кіраўніцтвам парламента і Міністэрства замежных спраў Малдовы, а таксама кіраўнікамі дэлегацый іншых краін-партнёраў, Еўракамісіі і Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў.

Еўракамісар па пытаннях пашырэння Штэфан Фюле распачаў у Кішынёве неафіцыйны дыялог па «Усходнім партнёрстве», які цяпер будзе праводзіцца двойчы на працягу года ў адной са сталіц краін-партнёраў. Фюле назваў гэты дыялог «важным інструментам для каардынацыі партнёрства, якое пашыраецца», і дадаў, што Малдова з'яўляецца прыкладам таго, як «правядзенне скаардынаваных рэформ і павелічэнне дапамогі ад Еўрасаюза можа наблізіць краіну да ЕС у інтарэсах яе грамадзян».

Цікава, што напрыканцы верасня мінулага года Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў саміт «Усходняга партнёрства» як балбатню, падзякаваўшы пры гэтым уладам Арменіі, Азербайджана, Украіны, Грузіі і Малдовы за адмову падтрымаць рэзалюцыю па Беларусі. «Пакуль гэта — балбатня, няхай яны (у ЕС) на мяне не крыўдзяцца, — заявіў Лукашэнка. — Я пакуль сабе задаю пытанне: калі «Усходняе партнёрства» з нейкай школы навучання палітыцы і дыпламатыі адной краіны — гэта значыць нас — ператворыцца ў нармальнае партнёрства. Калі мы пачнём рэалізоўваць эканамічныя праекты?» — пытаўся Лукашэнка.

Палітолаг Юрый Чавусаў, які цесна займаецца праблемамі грамадзянскай супольнасці, гаворыць, што нічога дзіўнага ў афіцыйным дыялогу на тэму супрацоўніцтва ў межах «Усходняга партнёрства» няма. «Рэспубліка Беларусь на міжнародным дыпламатычным узроўні не ставіла пад сумнеў удзел на «Усходнім партнёрстве». Былі негатыўныя заявы кіраўніка дзяржавы наконт мэтазгоднасці, але гэта хутчэй кампанент палітычнай гульні. Пакуль праграма «Усходняе партнёрства» — адно з любімых дзецішчаў ЕС. І яны не гатовыя прыняць паразу гэтага праекта. Увогуле, адносіны з ЕС можна прывесці да аналогіі дзвярэй — абодва бакі разумеюць, што гэтыя дзверы варта было б трымаць спраўнымі, каб у выпадку чаго можна было б іх адкрыць», — гаворыць палітолаг. Ён нагадвае, што з пэўных прычынаў праграма «Усходняе партнёрства» цяпер знаходзіцца ў напаўзамарожаным стане, але гэта не значыць, што ЕС махнуў рукой на геапалітычны інтарэс на ўсходніх межах. «Што тычыцца перспектывы інтэнсіфікацыі «Усходняга партнёрства» як паўнавартаснай праграмы, то цяпер яны сумнеўныя не толькі для Беларусі. Пасля 2008 года, вайны ў Грузіі падавалася, што «Усходняе партнёрства» будзе важным фактарам умацавання ўсходніх межаў Еўрасаюза. Але пакуль усё захаваецца ў такім стане, як зараз, з прычыны аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі, пэўных праблемаў ва Украіне, Азербайджане, бо праграма проста не можа быць паўнавартасна рэалізаваная. І таму ЕС вымушаны шукаць дадатковыя інструменты ўплыву, напрыклад, праграма «Дыялог дзеля мадэрнізацыі». Беларусь пакуль у гэтым не ўдзельнічае, але, хутчэй за ўсё, справа зрушыцца пасля парламенцкіх выбараў. «Усходняе партнёрства» пачынае абрастаць дапаможнымі ініцыятывамі, і калі будзе нейкая геапалітычная нагода, праграма зноў можа стаць лакаматывам еўрапейскай інтэграцыі на Усходзе», — гаворыць Юрый Чавусаў. Эксперт мяркуе, што ў жаданні наладзіць стасункі з Захадам (у тым ліку і дзяржаўныя грамадскія аб'яднанні, напрыклад, прафсаюзы) будуць спрабаваць скарыстацца гэтым каналам. Восенню адбудзецца Форум грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства», дзе Беларусь грунтоўна прадстаўленая недзяржаўным сектарам.

Удзельнікамі праграмы «Усходняе партнёрства» з'яўляюцца Арменія, Азербайджан, Беларусь, Грузія, Малдова і Украіна. Праграма была заснаваная на саміце ў Празе 7 мая 2009 года з мэтаю ўмацаваць адносіны паміж ЕС і ўсходнімі суседзямі за кошт паглыблення палітычнага супрацоўніцтва і эканамічнай інтэграцыі.

Адзін з найбольшых фактараў канфлікту Беларусі і ЕС ёсць наяўнасць у краіне палітзняволеных. Цяпер, па інфармацыі праваабаронцаў, у турмах Беларусі знаходзяцца 13 вязняў сумлення. На гэтым тыдні прадстаўнікі беларускай апазіцыі мелі сустрэчу з прадстаўнікамі Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Джонам К'ерам і Сціvenам Трэсінгам, падчас якой абмяркоўваліся ў тым ліку і пытанні, звязаныя з выкананнем правоў чалавека, бліжэйшай выбарчай кампаніяй у парламент. Еўрапейскія прадстаўнікі па выніках візіту ў Мінск падрыхтуюць даклад аб сітуацыі ў Беларусі, які будзе пакладзены ў аснову рашэнняў Савета міністраў краін ЕС у дачыненні да краіны.

Нагадаем, 8 чэрвеня да рашэння ЕС аб санкцыях супраць беларускіх уладаў далучыліся яшчэ сем краін — Харватыя, Македонія, Чарнагорыя, Ісландыя, Сербія, Албанія і Ліхтэнштэйн.

► АЭП

# ПАГРОЗА ВЯЛІКАЯ

Вольга ХВОІН

**«Трэба вяртацца і да пытання ўвядзення адзінай валюты. Другога крызісу беларуская сістэма не перажыве. І могуць паўстаць складанасці ўнутрыпалітычнага характару», — заявіў пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў у інтэрв'ю Інтэрфаксу. Калі разглядаць выказванне дыпламата як пазіцыю Крамля, то куды ў такім разе глядзіць афіцыйны Мінск, і ці варта разглядаць асобныя крокі ўладаў як намер навесці масты з Захадам?**




Некаторыя аналітыкі бачаць прыкметы намеру палепшыць стасункі з Захадам. З неахвотай выпусцілі на свабоду частку палітвязняў, і робіцца гэта акурат на патрабаванні Брусэля, а не Масквы, і дакладна не па добрай волі ўладаў дзяржавы. Да Дня незалежнасці ў Беларусі плануецца чарговая амністыя. З ёй звязваюць спадзяванні на тое, што на свабоду выйдуць яшчэ некалькі вязняў сумлення. Праўда, Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 12 чэрвеня на нарадзе пра будучую амністыю, заявіў, што з гэтага працэсу «трэба выключыць палітычны момант». Але дзіўна было б пачуць з вуснаў кіраўніка Беларусі адваротнае, тым больш міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч падкрэсліў, што палітычных вязняў у Беларусі няма, а амністыя закране амаль 10% асуджаных.

Прадстаўнікі афіцыйнага Мінска апошнім часам наведалі некалькі сустрэчаў, датычных беларуска-еўрапейскага супрацоўніцтва. Так, намесніца міністра замежных спраў Беларусі Алена Купчына нядаўна прыняла ўдзел у нефармальнай сустрэчы «Усходняга партнёрства» ў Кішынёве, а затым адправілася ў Італію для ўдзелу ў штогадовай рабочай сустрэчы міністраў замежных спраў краін-удзельніц Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы. Апошняе мерапрыемства праходзіла пад старшынствам кіраўніка МЗС Украіны Канстанціна Грышчанкі і было прысвечана тэме «Рэгіянальнае супрацоўніцтва для еўраінтэграцыі і мост паміж макрарэгіёнамі». У сустрэчы ўзялі ўдзел міністры і намеснікі міністраў замежных спраў 18 краін — удзельніц ініцыятывы, а таксама прадстаўнікі кіраўніцтва Еўракамісіі, Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў, Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, Еўрапейскага інвестыцыйнага банка, Арганізацыі Чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва. Планавалася, што падчас знаходжання ў Трыесце Алена Купчына правядзе таксама сустрэчы з кіраўнікамі дэлегацый шэрагу краін-удзельніц і кіраўніцтвам Выканаўчага сакратарыята Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы.

Пыл аптымістаў беларуска-еўрапейскіх адносінаў астуджае палітычны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. «Роўна год таму на такой жа сустрэчы быў сам міністр МЗС Сяргей Мартынаў, які не ўваходзіць у чорныя спісы. Больш таго, у яго былі нейкія прапановы, ён сустракаўся са сваім італьянскім калегам. Сёлета ў Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятыве старшынстве ўкраінскі калега, то чаму б Мартынаву не паехаць на гэтую сустрэчу, але ён выправіўся ў Інданезію! Я б не сказаў, што гэта высокі ўзровень беларуска-еўрапейскіх адносінаў. Увогуле, імкнуцца да нечага — не значыць мець вялікі прагрэс. У ЕС ёсць адна ясная пазіцыя — ніякіх адносінаў да вызвалення палітвязняў», — падкрэслівае Якаўлеўскі.

Ацэньваючы выказванні Сурыкава аб увядзенні ў Беларусі расійскага рубля, Якаўлеўскі нагадвае, што ў «пуцінскім еўразійскім праекце адзіная валюта, якой будзе толькі расійскі рубель ёсць важнейшай фішкай». «Хутка будзе ў Піцеры буйнейшы эканамічны форум, і гэтае згадванне пра ўвядзенне расійскага рубля не выпадковае», — мяркуе эксперт. Прэс-служба беларускага ўрада паведамляе, што прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч у пятніцу, 15 чэрвеня, у Санкт-Пецярбургу прыме ўдзел у рабочай сустрэчы з кіраўнікамі ўрадаў Расіі і Казахстана — Дзмітрыем Мядзведзевым і Карымам Масімавым. Падчас сустрэчы будуць абмеркаваны перспектывы пашырэння інтэграцыі ў Мытным саюзе і Адзінай эканамічнай прасторы. А на 21–23 чэрвеня запланаваны Пецярбургскі міжнародны эканамічны форум, куды Беларусь таксама запрошаная.

Расійскі пасол у Мінску Аляксандр Сурыкаў рэгулярна закідвае інфармацыю пра неабходнасць увядзення адзінай валюты. Так, на пачатку студзеня 2012 года ён заяўляў, што «пытанне аб пераходзе Беларусі на расійскі рубель можа быць закранутае ў выпадку складанай валютна-фінансавай сітуацыі, як гэта адбылося ў 2011 годзе». А напрыканцы студзеня тады яшчэ прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін даў зразумець, што ён чакае адказу беларускага боку на прапанову аб пераходзе на расійскі рубель: «Я лічу, што мяч усё роўна застаўся на іх баку па гэтым пытанні».

Цяпер жа, апроч актуальнасці ўвядзення расійскага рубля, Сурыкаў нагадаў і пра працу над Канстытуцыйным актам. «Трэба даваць прававую аснову Саюзнай дзяржаве, перадаваць частку суверэнітэту наддзяржаўным органам. У свой час у нас не атрымалася такое развіццё двухбаковых адносін, але цяпер можна паглядзець на гэта з іншага боку. Мы ж змаглі ў Мытным саюзе трох краін перадаць паўнамоцтвы ў эканамічнай плоскасці. Трэба выкарыстоўваць гэты вопыт у двухбаковым фармаце», — мяркуе Аляксандр Сурыкаў.

Раман Якаўлеўскі адзначае, што «цяпер сапраўды вельмі вялікая пагроза ўвядзення расійскага рубля». «Але, мяркую, бліжэйшым часам у нас будзе больш востра стаяць іншае пытанне. Насоўваецца новая хваля сусветнага крызісу, што адаб'ецца на Расіі і, адпаведна, на праектах для Беларусі. І меркаванне, што ў Расіі хопіць для Беларусі грошай, заўчаснае. На самай справе Расію чакае свой крызіс, бо цэны на нафту падаюць, а для сыравіннай эканомікі гэта жах», — гаворыць палітычны аглядальнік.

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 18 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона X.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Мультфільмы.
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**16.20** Серыял «Шырокая рака».
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.35** «Зона X». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 1-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Схуднець любым коштам».
**00.15** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Механічны апельсін».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Паляванне за ценем». Украіна, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінаспробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.10** Серыял «Вар'яты-2». Закл. серыя.
**11.15** Дакументальны фільм «Шчасце».
**11.35** Рамантычная камедыя «А вось і доктар» (ЗША).
**13.25** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.55** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**16.45** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.55** Прыгодніцкі фільм «У пошуках улюбёнца» (Балгарыя-ЗША).
**20.40** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Харватыя - Іспанія. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Футбол. Эўра-2012. Італія - Ірландыя.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**12.25** «Ранішняя@пошта».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Дзяжурны па краіне».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма максімум».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Асаблівa небяспечны!».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шэф».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Сумленны панядзелак.
**00.20** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.



**02.00** Ралі: Ралійная серыя IRC Сіцылія - Дзень 2.
**09.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**09.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Грэцыя - Расія.
**11.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Швецыя - Англія.
**13.45** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.00** Тэніс: Турнір ATP. Queen's - Фінал.
**15.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Іспанія - Італія.
**17.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Іспанія - Ірландыя.
**19.15** Тэніс: Турнір WTA. Бірмінгем - Фінал.
**20.00** Тэніс: Турнір ATP. Queen's - Фінал.
**20.45** Алімпійская гульні.
**21.00** Футбол.
**21.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.45** Усе віды спорту.
**21.50** Пра рэстлінг.
**22.20** Усе віды спорту.
**22.30** Пра рэстлінг.
**23.30** Тэніс: Турнір ATP. Queen's - Фінал.



**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.45** Казкі для дзетак.
**07.55** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 3, 4 серыі.
**08.55** Басанож па свеце.
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм: 1 серыя.
**10.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.40** «Каралева Бона», тэлесерыял: 2 серыя.
**11.35** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 6 серыя, «В'етнам».
**12.30** МакраФон: «Рок-карона–2010»: ч. 3.
**13.00** Размовы эксперта.
**13.20** Кружэлка (музычная праграма).
**13.50** «Арол: крымінальная сага», серыял: 4 серыя.
**14.50** «Лепей быць прыгожай і багатай», камедыя, 1993 г., Польшча.
**16.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**16.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.00** Дакументальная гадзіна: «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм: 1 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 9 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басанож па свеце.
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**00.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 19 ЧЭРВЕНЯ, АЎТОРАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона X.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.10** Арэна.
**10.35** Культурныя людзі.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Дэтэктыўны серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Здароўе.
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона X». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 2-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Уцёкі». Новы сезон.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.40** Фільм «Паляванне за ценем». Украіна, 2005 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Дарагая перадача».
**14.50** Фільм «Трусіная нара». ЗША, 2010 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Скарбніца Гомельшчыны.
**09.30** Цела чалавека.
**10.05** Драматычны серыял «Вар'яты-3» (ЗША). 1-я серыя.
**11.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Школа рамонту.
**13.05** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.35** Дакументальны фільм «Завядзенка».
**14.55** Прыгодніцкі баявік «Крапавы берэт». 3-я і 4-я серыі.
**16.45** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. Дынама - Гомель. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. Англія - Украіна. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Футбол. Эўра-2012. Швецыя - Францыя.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Трэцяя вайна» падпалкоўніка Твардоўскага».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцейны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шэф».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».



**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Данія - Германія.
**02.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Украіна - Францыя.
**09.35** Фітнэс.
**09.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Партугалія - Нідэрланды.
**11.45** Тэніс: Турнір ATP. Queen's - Фінал.
**12.50** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**13.00** Тэніс: Турнір WTA. Істборн - Дзень 2.
**17.00** Тэніс: Турнір ATP. Істборн - Дзень 2.
**21.00** Футбол.
**21.30** Тэніс: Турнір ATP. Істборн - Дзень 2.
**22.00** Бокс: Тытул Сусветнай арганізацыі бокса.
**23.45** Аўта і Мотаспорт.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** Дакументальная гадзіна: «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм: 1 серыя.
**08.30** «Час гонару», серыял: 9 серыя.
**09.15** Басанож па свеце.
**09.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.50** Еўропа сёння.
**10.20** Размовы эксперта.
**10.40** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**11.10** Фільматэка майстроў: «Я, Дон Джаванні», маст. фільм, 2009 г., Германія–Італія.
**12.45** Два на два (тэледыскусія).
**13.10** Дакументальная гадзіна: «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм: 1 серыя.
**14.05** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**15.00** Басанож па свеце.
**15.30** Еўропа сёння.
**15.55** «Курапаты – шлях сумлення», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.35** Размовы эксперта.
**17.00** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 6 серыя, «В'етнам».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 10 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.25** Паляванне на дзівосы.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.40** «Бландзінка», серыял: 12 серыя.
**22.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 2.
**23.25** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1.
**23.50** Аб'ектыў.
**00.15** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**01.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 20 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Зона камфорту.
**16.00** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**16.10** Серыял «Шырокая рака».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 3-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Уцёкі». Новы сезон. Закл. серыя.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Асяроддзе пасялення.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дыверсант». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.40** Наперад у мінулае.
**10.10** Серыял «Вар'яты-3» (ЗША).
**11.20** Анімацыйны фільм «Кукарача» (Расія-Арменія).
**12.30** Бухта капітанаў.
**13.10** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.35** Ясі і худзей.
**15.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.10** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.45** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.25** Баскетбол. Эўра-2013. Адборачны раўнд. Жанчыны. Беларусь - Ізраіль. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Псіхалагічная драма «Апошняя паездка» (Аўстралія).
**23.30** Камедыйны серыял «Светлафор».
**00.00** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Два залпы па канструктары. Драма «кацюшы».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцэйны».
**09.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шэф».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц».



**00.00** Ралі.
**00.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Харватыя - Іспанія.
**09.30** Аўта і матаспорт.
**09.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Італія - Ірландыя.
**11.45** Алімпійскія гульні.
**12.00** Фітнэс.
**12.15** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**12.25** Тэніс: «Матс пойнт».
**12.55, 17.00** Тэніс: Турнір WTA. Істборн - 1/8 фіналу.
**21.00** Футбол.
**21.25** Усе віды спорту.
**21.40** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.45** Конны спорт.
**22.45** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.50** Гольф: Еўрапейскі тур. гольф Аа St Omer Open.
**23.10** Гольф: Еўрапейскі тур. Жанчыны.
**23.20** Гольф: Гольф Клуб.
**23.25** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**23.30** Усе віды спорту.
**23.40** Аўтагонкі.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** Форум (ток-шоў).
**08.20** «Час гонару», серыял: 10 серыя.
**09.05** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.20** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**10.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.50** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 2.
**11.50** «Бландзінка», серыял: 12 серыя.
**12.35** Форум (ток-шоў).
**13.20** «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**14.15** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.30** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**14.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**15.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «З выцягнутымі рукамі», дак. фільм: ч. 2.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 3 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 11 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Аўтастопам праз Еўропу.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял, 2005 г., Аўстрыя–Германія: 1 серыя.
**22.30** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**22.55** Аб'ектыў.
**23.20** «Зграя», сенсацыйны серыял: 5 серыя.
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 21 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.05** Зямельнае пытанне.
**10.30** Да цешчы на бліны.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільм.
**15.35** Медычныя таямніцы.
**16.00** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**16.15** Серыял «Шырокая рака».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Серыял «Абдуры мяне-2» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 4-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.10** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Шчаслівы білет». Шматсер. фільм.
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Першы клас».
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**21.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.40** Ясі і худзей.
**10.10** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**11.10** Страсці па культуры.
**12.25** Жансавет.
**13.00** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**14.35** Ясі і худзей.
**15.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.10** Камедыйны серыял «Светлафор».
**16.45** Рэгіянальная праграма.
**17.45** Беларуская часіна.
**18.55** Рамантычная камедыя «Папялушка. Версія старэйшай сястры» (Канада).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Камедыйны серыял «Светлафор».
**00.40** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.10** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Мая вялікая сям'я».
**22.15** Тэлесерыял «Абаронца».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Аперацыя «Вялікі вальс».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Ліцэйны».
**09.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суду».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Серыял «Шэф».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** «Апошні герой». Фільм.



**00.05** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Польшча - Расія.
**02.05** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012: Грэцыя - Чэхія.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Конны спорт. Агляд тыдня.
**10.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Ірландыя - Харватыя.
**12.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап: Іспанія - Італія.
**14.00** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.10** Алімпійскія гульні.
**14.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 4.
**21.00** Футбол.
**21.30** Тэніс: Турнір АТР. Queen's - Дзень 4.
**22.30** Аўтагонкі.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 3 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 11 серыя.
**09.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Праект «Будучыня».
**10.30** Аўтастопам праз Еўропу.
**10.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**10.55** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**11.45** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**12.10** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «Ветах».
**12.25** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**13.10** Побач з намі.
**13.25** «Зграя», сенсацыйны серыял: 5 серыя.
**14.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.55** Праект «Будучыня».
**15.25** Аўтастопам праз Еўропу.
**15.45** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**16.30** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**17.00** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 3 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 12 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 1.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**22.45** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** «Зграя», сенсацыйны серыял: 6 серыя.
**01.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 22 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** «Колькі каштуе бяспека…» Хранікальна-дакументальны фільм (Беларусь).
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-4».
**12.10** Прэм'ера. «Чэрвень 41-га. Заходні асобы». Дакументальны фільм.
**12.50** Гераічная драма «Гадзіннік спыніўся апоўначы» («Беларусьфільм»).
**14.40** «Энергія руху». Дак. фільм (Беларусь).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**16.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Зона камфорту.
**18.45, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Камандзіроўка.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую».
**23.05** Ток-шоў «Не толькі жанчына ведае».
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 5-я серыя, заключная.



**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Шматсер. фільм «Жаночы доктар».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера «Шчаслівы білет». Шматсерыйны фільм.
**22.10** Прэм'ера. «Цой - «Кіно».
**23.05** Віктар Цой і група «Кіно». Канцэрт у «Алімпійскім».
**00.20** Фільм «Вій».
**01.35** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дыверсант. Канец вайны». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.35** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 3». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Каралеўскі палац». Францыя, 2005г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Механічны апельсін».
**23.50** «Еўрапейскі покерны тур».
**00.35** «Пантэра». Серыял.



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Фактар сілы.
**09.35** Ясі і худзей.
**10.05** Драматычны серыял «Вар'яты-3».
**11.10** Школа рамонту.
**12.25** Страсці па культуры.
**13.05** Прэм'ера. Хранікальна- дакументальны фільм «Крэпасць над Бугам».
**13.30** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**16.05** Альбарутэнія.
**16.40** Жансавет.
**17.15** Беларуская кухня.
**16.45** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Гераіка-прыгодніцкі фільм «Вам - заданне» («Беларусьфільм»).
**20.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Фактар сілы.
**00.45** Фантастычны баявік «Віртуознасць» (ЗША).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Кулагін і партнёры».
**12.05** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «З новай хатай!» Ток-шоў.
**15.15** «Аб самым галоўным». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Тры дні лейтэнанта Краўцова». 2012 г.
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** Фільм «Калі квітнее бэз» (2010 г.).



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Ліцейны».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Таямнічая Расія».
**11.10** «Да суду».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вочная стаўка.
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Прафесія - рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Фільм «Служу Савецкаму Саюзу».
**21.25** Вострасюжэтны фільм з цыклу «Марсія д'яблы. Лёсы».
**23.15** «22 чэрвеня. Фатальныя рашэнні». Фільм.
**00.50** Фільм «Танец жывата».



**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Данія - Германія.
**02.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**09.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Грэцыя - Расія.
**11.30** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - Групавы этап:Партугалія - Нідэрланды.
**13.30** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**13.40** Тэніс: Турнір WTA. Істборн.
**17.00** Тэніс: Турнір ATP. Істборн.
**21.00** Футбол.
**21.30** Тэніс: Турнір ATP. Істборн.
**22.15** Тэніс: Турнір WTA. Істборн.
**23.30** Аўта і Матаспорт.
**23.45** Конны спорт. Агляд тыдня.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 3 серыя.
**08.20** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.30** «Час гонару», серыял: 12 серыя.
**09.20** Беларускія лёсы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 1.
**09.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.55** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**10.40** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**11.05** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**12.00** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**12.55** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 3 серыя.
**13.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.50** «Зграя», сенсацыйны серыял: 6 серыя.
**14.45** Беларускія лёсы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 1.
**15.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.20** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.50** «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**16.10** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**16.30** МакраФон: «Канцэрт гурта «Палац».
**17.00** «Кароль-вінароб», серыял: 1 серыя.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 2.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**20.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Лінія Сталіна. Гонар ці ганьба?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**22.00** «У каго я ўрадзіўся», маст. фільм, 2001 г., Польшча.
**23.05** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** «Дэтэрмінатар», серыял: 2 серыя.
**00.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 23 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА



**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** «Здароўе». Ток-шоў.
**09.55** Камедыйны серыял «Зачараваны ўчастак» (Расія). 1-я серыя.
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма аб.
**12.10** Кінааповесць «Каліна чырвоная» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыйная меладрама «Самотным даецца інтэрнат» (СССР).
**17.15** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Камедыя «Цётка Клава фон Гетэн» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**22.55** Дзень спорту.
**23.05** Баявік «Апошні замак» (ЗША).



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** Асяроддзе пасялення.
**12.10** «Разумніцы і разумнікі».
**12.55** «Смешарыкі. ПІН-код».
**13.10** «Наталля Варлей. Сумна без Шурыка».
**14.10** «Хвіліна славы. Мары спраўджваюцца!». Фінал.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вяпрук» Шматсерыйны фільм.
**19.25** «Абмен жонкамі».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Жорсткія гульні». Новы сезон.
**22.35** Фільм «Растуленыя абдымкі».
**01.00** Фільм «Катала».



**07.00** Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-13». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Каралеўскі палац». Францыя.
**12.50** «Прыгоды дылетанта».
**13.25** Фільм. СССР, 1965 г.
**14.45** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дарагая перадача».
**17.50** Фільм «Галоўнае – паспець». Украіна.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Асаблівa цяжкія злачынствы». ЗША, 2002г.
**22.15** «Зорны рынг».
**23.30** Фільм «13 раён: ультыматум». Францыя, 2009 г.
**01.10** «Пантэра». Серыял.



**07.55** Дабравест.
**08.20** Мір вашай хаце.
**08.30** Гераіка-прыгодніцкі фільм «Вам - заданне» («Беларусьфільм»).
**10.10** Пра мастацтва.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**11.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.35** Наперад у мінулае.
**14.10** Беларуская кухня.
**14.45** Прыгодніцкая камедыя «Лемоні Снікет. 33 няшчасці» (ЗША-Германія).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Мінск - Шахцёр. Прамая трансляцыя.
**19.00** Гістарычны дэтэктыў «Вершнік з іменем Смерць» (Расія).
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**21.35** Футбол. Эўра-2012. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.40** Час футболу. Эўра-2012.
**00.15** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** Мультфільм.
**07.10** Фільм «Тры дні лейтэнанта Краўцова» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** Фільм «Калі квітнее бэз» (2010 г.).
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў».
**14.50** Юбілейная праграма «У свеце сяброў і звяроў».
**15.50** Фільм «Дом, у якім я жыву».
**17.40** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Хай кажуць» (2011 г.).
**00.00** Фільм «Жонка сышла» (1979 г.).



**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Акадэмія прыгажосці».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Жывыя легенды».
**14.10** Фільм цыклу «Казнакрады».
**15.05** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі..
**17.10** Вочная стаўка.
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** Прафесія - рэпарцёр.
**19.55** «Праграма максімум».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** Ты не паверыш!
**22.55** Фільм «Камуналка».
**00.35** Серыял «Час Волкава».



**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - 1/4 фіналу.
**02.00, 09.45** Ралі: Ралійная серыя IRC Бельгія - Дзень 1.
**09.30** Фітнэс.
**10.15** Тэніс: Турнір WTA. Істборн.
**11.20** Алімпійскія гульні.
**11.35** Усе віды спорту.
**11.50** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**12.00** Веславанне на байдарках і каноэ: Чэмпіянат Еўропы. Заграб.
**14.00** Тэніс: Турнір WTA. Істборн - Фінал.
**15.45** Тэніс: Турнір ATP. Істборн - Фінал.
**17.45** Тэніс: «Матс пойнт».
**18.15** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - 1/4 фіналу.
**20.15** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў.
**21.00** Футбол.
**21.30** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.
**23.00** Розныя баявыя мастацтвы.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.50** «Пiпi Доўгаяпанчоха», серыял: 5 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 5 серыя.
**08.40** Размовы эксперта.
**09.00** Навігатар.
**09.20** Прыватная калекцыя.
**09.45** На колах.
**10.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**10.50** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 3 серыя.
**11.40** Англійская для дзяцей.
**11.45** Казкі для дзетак.
**12.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 5.
**12.30** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**12.55** «Дэтэрмінатар», серыял: 2 серыя.
**13.45** «Лінія Сталіна. Гонар ці ганьба?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**14.20** МакраФон: кліпы.
**14.35** Беларускія лёсы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: ч. 2.
**15.00** МакраФон: «Белая яблыня грому», канцэрт гурта «Крамбамбуля»: ч. 1.
**15.20** «У каго я ўрадзіўся», маст. фільм, 2001 г., Польшча.
**16.25** МакраФон: кліп-парад.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 31 серыя.
**17.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**19.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.40** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Браты-ворагі», дак. серыял, 2010 г., Францыя: 3 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Удзельнікі турпаездкі», камедыя, 2006 г., Чэхія.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.00** «Арол: крымінальная сага», серыял: 5 серыя.
**01.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 24 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.10** Існасць.
**06.40** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**06.50** Камедыя «Цётка Клава фон Гетэн» (Расія).
**08.25** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял « Зачараваны ўчастак» (Расія). 2-я серыя.
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.25** Да цешчы на бліны.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.35** Культурныя людзі.
**13.05** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.00** Час Саюза.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Мультфільм.
**15.40** «Каханне зямное» (СССР).
**17.30** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**18.55** Рамантычная меладрама «Знак лёсу» (Расія-Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.20** Трылер «Тэлефонная будка» (ЗША).
**23.55** ІІ Міжнародны фэст.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**12.40** Фільм «12 крэслаў».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Жаночыя мары аб далёкіх краінах». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Жадаю Вам…». Канцэрт.
**23.05** Фільм «Каханне без правілаў».

### СТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.20** «Вялікі сняданак».
**11.00** Фільм «Асабліва цяжкія злачынствы». ЗША, 2002г.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.35** Фільм «Вас выклікае Таймыр». СССР, 1970г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дарагі Фрэнкі». Вялікабрытанія, 2003г.
**22.35** «Пякельная кухня».
**23.50** Фільм «Валізкі Тульса Люпера, частка 2». Расія-Германія-Вялікабрытанія-Нідэрланды-Іспанія-Люксембург, 2003г.
**01.50** «Пантэра». Серыял.

### Беларусь 2

**07.45** Размова са святаром.
**07.55** Прыступкі Веры.
**08.10** Таямніца душы.
**08.40** Гістарычны дэтэктыў «Вершнік з іменем Смерць» (Расія).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.40** Бухта капітанаў.
**14.20** Анімацыйны фільм «Падводная братва» (ЗША).
**16.10** Кінаспробы.
**16.55** Гістарычная драма «Джон Ф.Кэнэдзі. Стрэлы ў Даласе» (ЗША-Францыя).
**20.15** Спорт-кадр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Эўра-2012. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**23.45** Час футболу. Эўра-2012.
**00.20** Шоў «Суперінтуіцыя».

### Россия

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** «Гарадок».
**07.45** Фільм «Хай кажуць» (2011 г.).
**11.00** Весткі.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама».
**12.30** Фільм «Позняя сустрэча».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Гарадок».
**15.35** Фільм «Дзіўныя людзі».
**17.40** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**19.15** «Рассмяшы коміка».
**20.00** Весткі тыдня.
**21.05** Фільм «Начны госць» (2011 г.).
**23.00** Фільм «Лясун».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жаночы погляд».
**11.05** Дачны адказ.
**12.10** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**14.10** Фільм з цыклу «Казнакрады».
**15.05** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі..
**17.10** І зноў добры дзень!
**18.00** «Увага, вышук!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.45** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.55** Прэм'ера. «Анастасія Валачкова. Мая споведзь».
**22.55** «Нтвшнікі».
**00.00** Дэтэктыў «Цана страху».

### Eurosport

**00.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - 1/4 фіналу.
**02.00** Ралі: Ралійная серыя IRC Бельгія - Агляд.
**02.30** Тэніс: «Матс пойнт».
**09.30** Ралі: Ралійная серыя IRC Бельгія - Агляд.
**10.00** Гран-пры 3: Серыя. Валенсія - Гонка 1.
**10.30** Гран-пры 3: Серыя. Валенсія - Гонка №2.
**11.00** Веславанне на байдарках і каноэ: Чэмпіянат Еўропы. Заграб.
**12.15** Гонкі ў класе Турынг: Кубак Еўропы ў класе Турынг. 1ая спроба.
**12.45** Аўтагонкі: Суперкубак Паршэ. Іспанія.
**13.30** Гонкі ў класе Турынг: Кубак Еўропы ў класе Турнг. 2ая спроба.
**14.00** Веславанне на байдарках і каноэ: Чэмпіянат Еўропы. Заграб.
**14.45** Навіны: Эўра-2012. Навіны.
**14.55** Тэніс: Турнір WTA. Істборн - Фінал.
**16.00** Веславанне на байдарках і каноэ: Чэмпіянат Еўропы. Заграб.
**18.00** Футбол: Чэмпіянат Еўропы. Эўра-2012 - 1/4 фіналу.
**20.00** Тэніс: Турнір WTA. Істборн - Фінал.
**21.00** Футбол.
**21.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**21.45** Бокс.

### Белсат tv (Belsat)

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.50** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 6 серыя.
**08.20** «Мой родны горад», серыял: 6 серыя.
**08.45** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.55** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**10.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.35** «Доктар Марцін», серыял: 31 серыя.
**11.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**12.00** Англійская для дзяцей.
**12.05** Казкі для дзетак.
**12.35** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 6 серыя.
**13.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.10** «Арол: крымінальная сага», серыял: 5 серыя.
**14.10** «Браты-ворагі», дак. серыял, 2010 г., Францыя 3 серыя.
**14.40** «Удзельнікі турпаездкі», камедыя, 2006 г., Чэхія.
**16.40** Форум (ток-шоу).
**17.25** «Мітумба: шляхам «сэканд-гэнду», дак. фільм, 2005 г., Італія–Германія.
**18.20** «Каралева Бона», тэлесерыял: 3 серыя.
**19.15** Басанож па свеце.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Справа Фэрўэла: шпіён веку», дак. фільм: 2 серыя.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Размовы эксперта.
**22.00** Фільматэка майстроў: «Дзеці славы», маст. фільм, 2006 г., Венгрыя–ЗША.
**00.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.40** «Арол: крымінальная сага», серыял: 6 серыя.
**01.40** «Бульбаны», мультсерыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

ф. ПС 112

БЕЛПОЧТА

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Всего

Кассир

МЕРКАВАННЕ

# КВЕБЕКСКАЯ ВЯСНА

**Ужо больш за тры месяца ў канадскай правінцыі Квебек працягваецца беспрэцэдэнтны канфлікт улады і студэнтаў з-за ўвядзення новых цэнаў навучання. Пра феномен «квебекскай вясны» (так паэтычна называюць гэтыя падзеі ў замежных СМІ) журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з беларускім выкладчыкам у Манрэале, супрацоўнікам выдання «Le Monde Diplomatique» Міколам Мілюком.**



***— Калі гаворка ідзе пра пратэсты моладзі ў Канадзе, адразу згадваецца канадскі фільм «Быць як Троцкі», які пару гадоў таму выйшаў на экраны. Стужка распавядае пра бунт менавіта ў адной са школ Квебека. Праўда, там вучняў штурхае на барыкады не страўнік, а нудота ў класах і дыктат дарослых. Гэта нагадвае цяперашнія падзеі ў Квебеку?***

— Сапраўды, збольшага паралель правесці можна. У тым сэнсе, што, як і ў фільме, тэма адчужэння таксама выразна прысутнічае ў цяперашніх студэнцкіх пратэстах. Такое адчуванне, што рашэнне ўрада павялічыць тарыфы на навучанне стала толькі апошняй кропляй. Цяжка паверыць, што студэнты ідуць пад арышты і гатовыя ахвяраваць сваёй сесіяй толькі дзеля некалькіх сотняў долараў у год.

Аднак на гэтым падабенства паміж фільмам і рэчаіснасцю заканчваецца. Як паказалі «каструльныя» маршы, на якія людзі выходзілі сем'ямі, нельга ўсё зводзіць да канфлікту пакаленняў.

Да таго ж, квебекскія студэнты — далёка не ўсе выхадцы з сярэдняга класа. Каля паловы з іх — студэнты ВНУ ў першым пакаленні ці з сем'яў з дастаткам ніжэй за сярэдні, гэта значыць, па-сутнасці, дзеці пралетарыяту. У гэтым спецыфіка Квебека, дзе ў выніку «ціхай рэвалюцыі» (нацыянальнае адраджэнне франкамоўных канадцаў) франкамоўная большасць у Квебеку ўзялася ствараць свае ўласныя эліты, і даволі паспяхова.

Цяпер гэты праект згортваецца ліберальным істэблішментам, які, дарэчы, і быў створаны такой палітыкай. Таму цяперашні канфлікт — не толькі канфлікт генерацый, але таксама класавы. Плюс у тым ліку ўскосна звязаны з нацыянальным пытаннем.

***— Калі ўжо пачалі размаўляць пра нацыянальнае пытанне... Чаму паўстаў толькі франкамоўны Квебек, а англамоўныя правінцыі застаюцца пасіўнымі?***

— Сапраўды, ёсць чаму дзівіцца. Бо студэнты англамоўных правінцый плацяць за сваё навучанне ў паўтара-два разы больш за квебекцаў, і тарыфы ўвесь час растуць. Тым не менш, напрыклад, у суседняй Антарыі студэнты не страйкавалі ніколі. Прычынаў, хутчэй за ўсё, шмат, але, мне здаецца, галоўныя — гэта сімвалічная роля даступнасці адукацыі ў нацыянальнай свядомасці квебекцаў. Тут больш прагрэсіўная (левая) палітычная традыцыя — і, адпаведна, арганізаванасць студэнцкіх асацыяцый.

Магчыма, уплывае і іншы фактар: мадэлі сістэмы вышэйшай адукацыі ў Квебеку і іншых правінцыях адрозніваюцца. У Квебеку паміж школай і ўніверсітэтам існуе абавязковы прамежкавы этап — каледж, вучоба ў якім практычна бясплатная. У той жа час канадскія студэнты даведваюцца, што такое крэдыт на вучобу, адразу пасля школы, у больш раннім і менш свядомым узросце. Для іх неабходнасць плаціць становіцца нормай, таксама як для новага пакалення беларускіх студэнтаў стала нормай уступленне ў БРСМ... Зрэшты, прыклад квебекскіх студэнтаў, у выпадку поспеху, можа апынуцца заразлівым.

***— Ці прысутнічае тэма незалежнасці Квебека ў лозунгах пратэстуючых?***

— Не ведаю, ці варта гэта лічыць «тэмай незалежнасці», але нацыянальны сцяг Квебека на дэманстрацыях мірна суседнічае з іншымі сцягамі, хаця ўсё ж дамінуе чырвоны колер. Самімі студэнцкімі асацыяцыямі тэма незалежнасці ніяк не ўздымаецца. Гаворка, хутчэй, ідзе пра індывідуальныя ініцыятывы асобных «незалежнікаў», якія выкарыстоўваюць пратэсты ў якасці пляцоўкі для прапаганды сваіх ідэй. Але не выключана, што бліжэй да выбараў тэма незалежнасці будзе агучана і неяк увязана з пытаннем вышэйшай адукацыі.

***— Што ўяўляюць сабой студэнцкія прафсаюзы ў плане палітычнай арыентацыі? Гэта карпаратыўны пратэст?***

— Студэнцкі рух прадстаўлены трыма буйнымі арганізацыямі, якія спраўна збіраюць унёскі і, адпаведна, добра арганізаваныя. Дзве асацыяцыі — FEUQ (універсітэцкая) і FECQ (каледжы) — можна назваць умеранымі. Яны выступаюць за тое, каб замарозіць тарыфы на навучанне. Трэцяя — CLASSE — значна больш радыкальная, выступае за бясплатную вышэйшую адукацыю. Урад неаднаразова адкрыта называў іх анархістамі. У сваю чаргу, CLASSE ніколі не асуджала акцыі прамога дзеяння і адкрыта заклікала да акцый непадпарадкавання «закону 78».

Зрэшты, нават пры ўсім жаданні, студэнцкія асацыяцыі не здольныя стрымаць радыкалізацыю руху. Пасля прыняцця «закона 78» пратэсты выйшлі далёка за рамкі студэнцкага страйку. Узяць хоць бы «каструльныя» маршы, або кампанію за тое, каб сарваць праведзенне ў Квебеку этапу гонкі «Формулы–1».

***— У чым сэнс згаданага табой «закона 78»? Чаму ўлады так рэагуюць? Падчас адной з дэманстрацый было арыштавана 700 чалавек.***

— «Закон 78» абмяжоўвае правы на дэманстрацыі і сходы, а таксама ўводзіць сістэму штрафаў за дзеянні, якія «парушаюць права студэнта на наведванне заняткаў». Існуе шмат гіпотэз наконт сэнсу дзеянняў урада. Стратэгія чыноўнікаў, магчыма, была разлічана на эскалацыю канфлікту і палярызацыю грамадскай думкі, якая дазволіла б адцягнуць яе ад іншых праблем, а менавіта карупцыйных скандалаў, якія неўзабаве рызыкуюць цалкам падарваць давер да прэм'ера Жана Шарэ і яго ліберальнай партыі.

Напярэдадні канфлікту суадносіны сіл былі на баку Шарэ. Моладзь, якая складае меншасць насельніцтва, на выбары не ходзіць і ў якасці электарату лібералам не цікавая. А таму з самага пачатку ўрад цураўся ідэі перамоваў. На першым этапе, цэлых два месяца, міністры спачатку горда ігнаравалі пратэсты, потым спрабавалі падзяліць лагер студэнтаў: згаджаліся сустракацца з аднымі і адмаўляліся — з іншымі. Калі і гэта тактыка не спрацавала, яны вырашылі пры дапамозе адмысловага закона і штрафаў запалохаць масавага дэманстранта, а таксама студэнцкія асацыяцыі, каб на вуліцы выходзілі толькі радыкалы-анархісты, а пасля палохаць імі ўжо абывацеля глыбінкі.

Але, падобна, улада недаацаніла ступень незадаволенасці значнай часткі насельніцтва і рашучасць студэнтаў. Ідэі грамадзянскага непадпарадкавання шырока распаўсюджаны ў грамадстве. Закон дэманстрантамі ігнаруецца, і паліцыя ўжывае яго толькі на словах, абʼяўляючы дэманстрацыі незаконнымі.

***— Якой можа быць развязка канфрантацыі?***

— Усё ідзе да выбараў у парламент правінцыі, якія могуць быць абвешчаны датэрмінова, увосень. Цяпер, падобна, студэнты робяць стаўку на падзенне ўрада і разгортваюць кампанію супраць лібералаў. У выпадку перамогі апазіцыі, якая далёка не гарантаваная, апазіцыйным партыям давядзецца лічыцца з палітызацыяй моладзі і грамадзянскім рухам, што з'яўляецца, па словах выдання «The Giardian», найбольш значным пратэстам супраць неаліберальных рэформаў у Паўночнай Амерыцы за апошнія гады.



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Відавочна, Бацька мроіць пра прыход у Беларусь «тоўстых» фармацэўтычных інвестараў, для якіх створаны вельмі прывабныя (прынамсі на паперы) льготныя ўмовы. Але нават пры такіх умовах замежныя фармацэўтычныя гіганты, у тым ліку і расійскія, зусім не спяшаюцца адкрываць лакальную вытворчасць у Беларусі — вельмі нестабільная рэспубліка ў сэнсе палітыкі і эканомікі, а расіянам працей задушыць мясцовы рынак пастаўкамі, вызваліўшыся ад мыт унутры Мытнага саюза, чым губляць час на будаўніцтва фабрык і вытворчасць.

**«Свободная пресса» (Расія)**

Раней Лукашэнка спрабаваў пасварыць Расію з Захадам — праводзіў час ад часу перамовы з Еўрапейскім саюзам, каб дамагчыся такім чынам крэдытаў і субсідый ад Крамля. Але аўтарытарны прэзідэнт не можа больш працягваць гэту гульню, паколькі адносіны яго краіны з Захадам замарожаныя.

**«The Associated Press» (ЗША)**

Пасля ўступлення Расіі ў СГА (Сусветная гандлёвая арганізацыя) надыдзе чарга Казахстана і Беларусі. З Беларуссю СГА будзе, відавочна, няпроста ў сілу спецыфікі гэтага рэжыму — Лукашэнка наўрад ці адмовіцца ад субсідый для мясцовых вытворцаў. У сувязі з гэтым Захад, і ў прыватнасці ЕС, ужо на цяперашнім этапе спрабуе на прыкладзе Расіі паказаць, што парушэнне нормаў СГА не застанецца без пакарання. Пытанне ў тым, ці гатовыя Беларусь і Мытны саюз стаць адкрытымі эканомікамі? Або яны будуць спрабаваць вечна сядзець на двух крэслах, знаходзячыся ў СГА і пры гэтым не прымаючы ўсіх яе правіл?

**«Рэспубліка» (Казахстан)**

Як доўга можа пратрымацца сістэма, створаная Аляксандрам Лукашэнкам, без структурных рэформаў у эканоміцы? Лічыцца, што да таго моманту, калі ў Крамля знікне жаданне ўтрымліваць Беларусь. Уладзімір Пуцін наўрад ці доўга будзе заплюшчваць вочы на росквіт беларускага нафтавага афшора і парушэнне прынятых абавязанняў у рамках АЭП. Пачатак расследавання, звязанага з экспартам растваральнікаў, служыць таму сведчаннем, паколькі несумленная канкурэнцыя Беларусі наносіць шкоду самой інтэграцыйнай ідэі. Стаўка толькі на расійскую нафтавую іголку вядзе беларускую эканоміку да далейшай дэградацыі і да поўнай страты эканамічнай самастойнасці.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Калі ж Кіеву не ўдасца пераканаць ЕС і ЗША ў сваёй дэмакратычнасці, Украіна будзе змушана прайсці па шляху Беларусі, якая ўжо больш за 10 гадоў жыве ва ўмовах сталых санкцый з боку ЕС. Аднак сам механізм такога супрацьстаяння антыдэмакратычным рэжымам у свеце пакуль не адпрацаваны, таму ўвядзенне такіх мер супраць Мінска не прынесла належных вынікаў.

**«Укррудпром» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. ХЛЕБА, А НЕ ГУЛЬНЯЎ!

Паралельна з пачаткам «Еўра–2012» у Польшчы стартавала кампанія супраць правядзення футбольнага чэмпіянату. Хаця ініцыятары кампаніі — анархісты, у іх хапіла грошай на тое, каб выкупіць 4 білборды ў чатырох польскіх гарадах, дзе ў рамках турніру пройдуць матчы. Змест білбордаў нагадвае публіцы, што свята спорту адбываецца за кошт падаткаплацельшчыкаў, якім такая цацка ў час крызісу абсалютна не трэба. Маўляў, лепш бы на тыя грошы пабудавалі больш школ і сацыяльнага жылля. З іншага боку, на думку працаўнікаў «Еўра–2012», будаўніцтва вялізарных спартовых аб'ектаў да чэмпіянату — поўная авантура. Анархісты згадваюць вопыт Партугаліі, якая прымала ў сябе папярэдні футбольны турнір. Пабудаваная тады ў краіне спартовая інфраструктура пасля чэмпіянату аказалася нікому не патрэбнай. У некаторых гарадах трыбуны стадыёнаў ніколі пасля чэмпіянату Еўропы па футболу цалкам не запаўняліся гледачамі. Затое менавіта той часовы будаўнічы бум у вялікай ступені выклікаў масавы попыт на крэдыты, а гэта прывяло да цяперашняга банкаўскага крызісу. Адным словам, калі верыць анархістам, «Еўра–2012» — прадвеснік дэфолту Польшчы.

**Паводле польскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. ПРЫЧЫНА ПАМЕЖНАЙ ТРАГЕДЫІ – ЖАНЧЫНА

Самыя неверагодныя версіі нараджаюць казахскія журналісты і ўдзельнікі форумаў пра прычыны трагедыі на заставе казахска-кітайскай мяжы, дзе 30 мая былі знойдзены рэшткі 15 чалавек. Міністр унутраных спраў заявіў пра затрыманне адзінага жывога жаўнера, якога завуць Уладзіслаў Чэлах (19 гадоў). Нібы той прызнаўся ў забойстве калегаў з-за праблем з псіхікай. Такая версія выглядае няяк дзіўна нават для афіцыйнай прэсы. Мала верыцца, каб адзін юнак мог забіць пятнаццаць чалавек. Адсюль шквал альтэрнатыўных версій. Напрыклад, пішуць, што памежнікаў забілі кітайскія кантрабандысты, а Назарбаеў, каб не сварыцца з Пекінам, не хоча гэты прызнаваць. Іншыя лічаць, што гэта справа Масквы, якая хацела справакаваць канфлікт паміж кітайцамі і казахамі. Ёсць версія, што гэта была разборка сілавікоў. Нагадаем, што інцыдэнт адбыўся напярэдадні дня памежніка, што значна падарвала прэстыж ведамства. Аднак самую вар'яцкую ідэю прапанавалі аматары жаночага следу. У інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра тое, што на заставе знойдзены фрагменты жаночага адзення. Іншымі словамі, памежнікаў магла наведаць жанчына, у барацьбе за сімпатыі якой хлопцы і забілі адзін аднаго.

**Паводле казахскіх сайтаў**

### ФРАНЦЫЯ. ФРАНЦУЗЫ НЕ ЛЮБЯЦЬ ПІРАТАЎ

Камяком атрымаўся першы блін у французскіх піратаў. Партыя аматараў вольнага софту і праціўнікаў аўтарскіх праў у інтэрнэце відавочна марыла паўтарыць поспех сваіх нямецкіх аднадумцаў, якія зрабілі сапраўдную электаральную рэвалюцыю — прайшлі ў чатырох землях у мясцовыя парламенты і маюць 9 працэнтаў папулярнасці. Аднак па гэты бок Рэйна такі фокус зрабіць не ўдалося. Па выніках парламенцкіх выбараў, якія адбыліся 10 чэрвеня, са 101 піратскага кандыдата толькі 25 набралі больш за 1 працэнт. Найбольш за піратаў галасавалі французскія грамадзяне, якія жывуць у Германіі. Па закону, гэта грамада мае аднаго свайго прадстаўніка ў парламенце. Французскі пірат у Германіі атрымаў 2,8 працэнта. Праўда, такога выніку і трэба было чакаць. Пакуль у 46-мільённай Францыі ўсяго 400 сяброў партыі піратаў.

**Паводле французскай прэсы**







### РУМЫНІЯ. ФАНТАСТЫ ПІШУЦЬ ПРА ВАЙНУ ЗА ПРЫДНЯСТРОЎЕ

Усё пачалося з таго, што малдаўскую частку Прыднястроўя далучылі да Румыніі. І тут на дапамогу Прыднястроўю прыйшлі ўкраінскія войскі. У выніку пад Кішынёвам пачынаецца крывавая бойка паміж войскамі. Паступова сюды адпраўляюцца часткі краін Еўрасаюза і ЗША. З другога боку на дапамогу ўкраінцам прыходзіць Расія. Такі вось асноўны сюжэт кнігі «Кроў на Днястры», якая з'явілася на паліцах кніжных крамаў Бухарэста. Кніга стала бестселерам у краіне і выклікала шмат каментараў наконт будучага далучэння Малдовы да Румыніі. На думку большасці румын, такая перспектыва не за гарамі. Палітолагі ў Кіеве кажуць, што падобныя кнігі адлюстроўваюць настрої румынскага народа, і трэба быць гатовымі да канфліктаў, хаця і не да вайсковых. «Самае цікавае, што ў анлайн-крамах кнігу рэкламуюць як сямейны падарунак. «Зрабіце неспадзяваны падарунак каханаму, купіце «Кроў на Днястры». Бясплатная дастаўка па ўсёй краіне».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

ЦІКАВА

# МАДОННА СУПРАЦЬ МАРЫНЫ

*Алег НОВІКАЎ*

**Напярэдадні парламенцкіх выбараў лідар французскай партыі «Нацыянальны фронт» Марына Ле Пэн намагаецца давесці спявачцы Мадонне, што яна — не Адольф Гітлер.**



Францыя ў чаканні пазатэрміновых парламенцкіх выбараў, першы тур якіх адбудзецца 10 чэрвеня.

Паводле апытанняў, перамогу па выніках галасавання атрымаюць сацыялісты, чый кандыдат Франсуа Аланд 6 мая стаў прэзідэнтам Францыі. Аднак гэта не значыць, што выбары цалкам пазбаўленыя інтрыгі. Так, палітолагі актыўна спрачаюцца, ці змогуць левыя атрымаць абсалютную большасць у Нацыянальнай асамблеі.

Не меншы інтарэс выклікае дуэль паміж «Нацыянальным фронтам» (FN) і кансерватыўным «Саюзам за народныя рух» (UMP). Стаўка — статус галоўнай правай партыі. На апошніх прэзідэнцкіх выбарах Марына Ле Пэн устанавіла гістарычны рэкорд, набраўшы ў першым туры 18 працэнтаў. Цяпер перспектыва таго, што «Нацыянальны фронт» стане вядучай правай сілай, не выглядае фантастыкай. У тым жа туры ў красавіку Нікаля Сарказі — кандыдат UMP — атрымаў 26 працэнтаў і не нашмат адарваўся ад Марыны.

Ультраправыя адсутнічаюць у Нацыянальнай асамблеі з 1997 года, і калі яны здолеюць правесці хаця б аднаго дэпутата, гэта будзе феерычная перамога. Нагадаем, што выбары ў французскі парламент праводзяцца па мажарытарнаму прынцыпу. У другі тур праходзяць кандыдаты, якія атрымалі ў першым 12,5 працэнта галасоў. У другім туры перамагчы можна толькі за кошт шырокай кааліцыі з іншымі палітычнымі сіламі. Раней кансерватары за «Нацыянальны фронт» не галасавалі: у 1996 годзе Ален Жупэ, тагачасны прэм'ер-галіст, забараніў кансерватыўнаму электарату галасаваць за кандыдатаў «Нацыянальнага фронту».

Аднак цяпер шматлікія прыхільнікі UMP, здаецца, не супраць парушыць табу. Хаця б таму, што палітычныя платформы абедзвюх структур сталі бліжэй. Усё з-за палітыкі Нікаля Сарказі, які ўключыў у сваю праграму шмат ідэйных напрацовак «Нацыянальнага фронту» наконт змагання супраць эмігрантаў.

Таму не дзіўна, што па выніках згаданага вышэй першага тура прэзідэнцкіх выбараў Марына перамагла ў 23 акругах, адкуль цяпер будуць абірацца дэпутаты. Асабліва спрыяльная сітуацыя для «Нацыянальнага фронту» ў Марселі. Акрамя таго, у кіраўніцтве UMP зараз поўны хаос. Пасля сыходу Сарказі на пасаду лідара прэтэндуе некалькі палітыкаў.

Дадатковая інтрыга выбараў: Марына Ле Пэн балатуецца па той жа акрузе, што і яе ідэйны праціўнік Меленшон, лідар блоку «Левы фронт». Па-дэ-Кале, дзе яны балатуюцца, — гэта не проста заштатны край. Гэта калыска французскага рабочага руху, апісаная ў славутым рамане Эміля Заля.

І тут нечакана ў французскую палітыку ўмяшаўся шоў-бізнэс у выглядзе Мадонны. У сваім шоў у Ізраілі для песні «Nobody Knows Me» («Мяне ніхто не ведае») славутая амерыканская спявачка выкарыстала шэраг фонавых выяў. На адным з кадраў з'явілася Марына Ле Пэн. Праз нейкі час на экране замест яе паўстала фатаграфія Адольфа Гітлера.

Дарэчы, як вядома, у тым слайд-шоў Мадонны прысутнічаў і партрэт Аляксандра Лукашэнкі. Беларуская апазіцыйная супольнасць палічыла, што такім чынам артыстка запісала яго ў кампанію з Гітлерам. Аднак тут справа больш складаная. На экране таксама мільгалі выявы кітайскага дысідэнта, цяперашняга Рымскага Папы і лідара амерыканскіх ультракансерватараў. Аднак, калі стаўленне Мадонны ў дачыненні да пералічаных асобаў застаецца загадкай, то з Марынай Ле Пэн усе зразумела: на партрэце мадам Марыны была намаляваная свастыка.

Пакуль афіцыйны Мінск ніяк не пракаментаваў з'яўленне партрэта Лукашэнкі на шоў Мадонны. А вось нацыяналісты з «Нацыянальнага фронту» справу так не пакінулі. І гэта зразумела — апісаны вышэй кадр на выступе Мадонны стаў сапраўднай бомбай у французскім інтэрнэце.

На думку шмат каго, тое, што Марыну параўналі з Гітлерам, цалкам лагічна, паколькі яе рыторыка ўтрымлівае ксенафобскія ноты. У сваю чаргу, прыхільнікі Марыны спрабуюць апраўдаць свайго куміра.

«Я — выбаршчык FN, і на маёй кніжнай паліцы ніколі не было кніжкі «Майн кампф». Я не збіраюся дасылаць яўрэяў у лагеры. Гэта чыстая правакацыя», — піша на форуме газеты «Le Monde» блогер Jeanne. На гэты пост адразу знайшоўся адказ. Нехта korrigan параўнаў ідэю Марыны абмежавання доступу эмігрантаў да сацыяльных службаў з тыповым расізмам з гістарычнага арсеналу нацыстаў.

Пры ўсёй прымітыўнасці спрэчак, яны яўна не на руку мадам Ле Пэн. Марына, будучы абранай старшынёй «Нацыянальнага фронту», уклала процьму сіл і часу ў аперацыю «нармалізацыя» — пазбаўленне сваёй партыі ад іміджу карычневай палітычнай сілы. Нагадаем, што гістарычна FN звязаны з групай былых калабарацыяністаў часоў Другой сусветнай вайны.

Марына сапраўды шмат чаго дабілася на гэтай глебе. Напрыклад, левы рэспубліканскі часопіс «Marianne» на днях нават пашкадаваў, што памёр вядомы даследчык французскіх правых Рэнэ Рэмон (René Rémond). Толькі ён мог, па словах журналіста, растлумачыць, чаму Ле Пэн — ультраправы палітык. Выданне звяртае ўвагу на тое, што Ле Пэн не адпавядае старым крытэрам вызначэння правага палітыка: яна не рэакцыянерка, не манархістка, не інтэгральны каталік, не антысеміт, і, нарэшце, не апалагет неліберальнай школы.

Аднак з-за маштабу скандалу вакол выступу Мадонны Марына Ле Пэн зноў пачала даводзіць, што яна не фашыстка. Каментуючы выхадку артысткі, палітык заявіла: «Спевакі, якія старэюць, часта карыстаюцца рознага кшталту правакацыямі для таго, каб пра іх зноў загаварылі».

Відавочна, Марына спасылаецца на тое, што Мадонна і раней выкарыстоўвала тактыку правакацый, каб прыцягнуць да сябе ўвагу. Можна згадаць, які скандал выклікаў у каталіцкіх краінах эпізод яе канцэрту, падчас якога яна вісела на імправізаваным крыжы, як той Ісус Хрыстос. Падчас туру Мадонны ў Польшчу ў 2010 годзе мясцовыя царкоўнікі нават правялі ў Варшаве нешта накшталт крыжовага ходу супраць візіту спявачкі.

Цікава, што мадам Ле Пэн у яе канфлікце з Мадоннай падтрымалі левыя. Новы міністр-сацыяліст па праблемах жанчын заявіла, што яна шкадуе з-за таго, што Мадонна выкарыстала відэа, якое пазбаўлена густу.

Пакуль Мадонна маўчыць. У сваю чаргу, партыя «Нацыянальны фронт» заявіла, што падасць судовы пазоў супраць спявачкі, у выпадку дэманстрацыі на яе канцэрце ў Парыжы відэа з малюнкам лідара партыі Марыны Ле Пэн са свастыкай на ілбу.

Праўда, канцэрты Мадонны ў Францыі адбудуцца толькі 14 і 22 ліпеня. На гэты час выбары пройдуць, і ўжо стане вядома, ці здолела Марына праравацца ў парламент.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ХТО ЗАМОВІЎ БІТВУ ЗА ВАРШАВУ?

Алег НОВІКАЎ

**Рэакцыя на бойку расійскіх і польскіх фанатаў 12 чэрвеня аказалася настолькі маштабнай, што ў польскай прэсе з'явіліся нават канспіралагічныя версіі прычын апошніх падзей.**



Як вядома, у той вечар у выніку бойкі ў Варшаве, пралогам якой стаў вулічны марш расійскіх фанатаў з нагоды Дня Расіі, было арыштавана каля 100 асобаў. Аднак галоўныя наступствы «другой варшаўскай бітвы» наперадзе. Безумоўна, яны адаб'юцца на стане польска-расійскіх адносін, на ўнутранай палітычнай сітуацыі ў Польшчы і г.д.

Менавіта таму шмат хто шукае канспіралогію ў тым, што здарылася.

Напрыклад, сайт каталікоў Polonia Christiana лічыць, што бойка ў Варшаве была часткай нейкай аперацыі расійскіх уладаў. Па-першае, аўтары ўзгадваюць агрэсіўную рэакцыю расійскіх СМІ на заклік польскага пасольства ў Маскве да расійскіх балельшчыкаў — пазбегнуць дэманстрацыі ў Польшчы забароненых за Бугам савецкіх сімвалаў. Каментуючы тую заяву, расійская прэса хутчэй падбівала балельшчыкаў прыхапіць з сабой у польскі тур «сярпаста-малаткасты» сцяг.

Выданне таксама цытуе расійскую ліберальную прэсу, якая вельмі дзівілася жаданню расійскіх тыфозі адзначаць у Варшаве свята 12 чэрвеня, паколькі ў самой Расіі гэты дзень, які хоць і лічыцца афіцыйным святам, практычна ніхто не святкуе. Тым больш, ігнаруюць яго аматары махаць савецкімі штандарамі: як вядома, прынятае 12 чэрвеня 1990 года дэкларацыі аб суверэнітэце Расіі паскорыла развал СССР.

Не кажучы пра тое, што ў фанацкім асяроддзі значна больш прыхільнікаў правых антыкамуністычных канцэпцый. Расія і СНД, здаецца, ці не адзіны ў Еўропе рэгіён, дзе кельцкі крыж (сімвал радыкальных правых) стаў знакам усёй субкультуры футбольных фанатаў.

Медыя-падзея — бойка ў Варшаве — сапраўды аказалася значна больш важнай для расійскай аўдыторыі, чым апазіцыйны «Марш мільёнаў», які адбыўся ў той жа дзень у Маскве. Аднак Расія і так ужо пацярпела з-за выхадак фанатаў сваёй зборнай. Як вядома, пасля першых інцыдэнтаў у Вроцлаве ФІФА пачала дысцыплінарную справу супраць Расійскага футбольнага саюза. Апошні, у сваю чаргу, выдаў спецыяльны зварот для расійскіх фанатаў, заклікаючы іх годна прадстаўляць айчыну.

Акрамя таго, пра праўдзівасць версіі рукі ФСБ сведчыць тое, што Polonia Christiana і іншыя правыя СМІ былі ў лепшым выпадку інструментамі ў руках Лубянкі. Менавіта польскія правыя СМІ гіпербалізавалі вельмі спрэчную ў гістарычным вымярэнні тэму савецкай сімволікі. «Савецкі сцяг на вуліцах польскіх гарадоў — тое ж самае, што нямецкія фанаты прыедуць у Польшчу са свастыкай», — піша сайт Nazionalista. pl . «Чаму нам плююць у твар наўпрост пасярод сталіцы нашай быццам незалежнай дзяржавы, а мы робім выгляд, што ідзе дождж?» Тое ж выданне заклікала палякаў у выпадку з'яўлення на гарызонце чырвонага сцяга, як гаворыцца, не праходзіць міма.

Пасля падзей 12 чэрвеня правыя яшчэ больш раскручваюць спіраль напружання. Хітом нацыяналістычнага інтэрнэта сёння стала песня «Бей бальшавіка». А адзін з функцыянераў варшаўскага бюро апазіцыйнай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) лічыць, што хуліганы, якія збівалі расійскіх калег, абаранілі гонар Польшчы, падстрахаваўшы футбалістаў, якія аказаліся не здольнымі перамагчы рускіх на стадыёне. Увогуле, напярэдадні расійскага маршу адзін з лідараў PiS заклікаў да пратэстаў супраць маніфестацый, зноў жа з-за тых сцягаў з сярпом і молатам.

Нельга не ўзгадаць яшчэ адну версію прычын інцыдэнту. Напярэдадні матчу Польшча—Расія сайт нацыяналістычнай арганізацыі «Усепольская моладзь» звярнуў увагу на тое, што ўлады Варшавы дазволілі расійскі марш, добра ведаючы, што з'яўленне на ім правакацыйнай сімволікі (а значыць — і падстаў для канфрантацыі) гарантавана.

«Ці будуць бойкі? Не вядома, аднак зразумела адно — «платфармісты» (ад назвы партыі «Грамадзянская платформа» (PO) — урадавай партыі ў Польшчы) зрабілі ўсё, каб скандальны правакацыйны марш быў дазволены. Уся адказнасць за тое, што адбудзецца на вуліцах Варшавы, ляжыць на ўладах Варшавы», — піса сайт. Групоўка звязвае такія паводзіны ўлады з новым праектам закону аб сходах, які зараз разглядае Сейм. Новы кодэкс яўна будзе тычыцца і сходаў вельмі шумных груповак фанатаў.

Такая тэорыя цалкам пасуе таму, што ўрад Дональда Туска ўжо амаль як год вядзе вайну з фанацкім рухам. Аднак наўрад ці Туску для таго, каб ціснуць на фанатаў, быў патрэбны прэцэдэнт, які атрымаў сусветны рэзананс. Бойка ў Варшаве падарвала прэстыж цяперашняй польскай палітычнай эліты. Шматлікія сусветныя выданні прысвяцілі перадавіцы бойцы, і амаль усе адзначылі слабую тактыку польскай паліцыі, якая дазволіла правакатарам уцягнуць у беспарадкі мірных фанатаў.

Гэта ацэнка таксама незвычайная. Па кадрах можна пабачыць, што ў бойцы ўдзельнічаў у лепшым выпадку 0,1 працэнтаў прысутных на вуліцы людзей. Таму некаторыя выданні, кшталту «Gazeta Wyborcza», нават асудзілі еўрапейскую прэсу за двайныя стандарты. Узгадваюць, што 4 гады таму ў Манчэстэры дайшло да бойкі паміж фанатамі клубаў «Зеніт» (Санкт-Пецярбург) і «Glasgow Rangers». У выніку адзін чалавек быў цяжка паранены нажом, а цэнтр гораду выглядаў так, быццам на яго кінулі бомбу. Аднак ніякай рэакцыі прэсы на тыя разборкі не было.

Падыход такога кшталту дазваляе шмат каму казаць пра нейкую медыя-змову супраць добрага іміджу Польшчы. Адказ ведае польская левая прэса. На яе думку, заходнія СМІ, звязаная з буйнымі фінансавымі канцэрнамі і ўрадамі, зараз шукаюць інфармацыйную нагоду, каб адцягнуць увагу людзей ад эканамічных праблем і пошукаў адказнага за крызіс. Прайсці міма бойкі ў Варшаве яны папросту не маглі.

Між тым, ёсць і альтэрнатыўная думка. Быццам менавіта польская журналістыка нясе адказнасць за тое, што адбываецца. На гэта звяртае ўвагу сайт salon24. pl. Аўтар артыкулу «Варшаўская бітва 2012» лічыць, што ва ўсім вінаватыя польскія СМІ, якія надалі гістарычны і палітычны кантэкст матчу Расія—Польшча. Па словах журналіста, польскім хуліганам, па сутнасці, усё роўна, каго мачыць. Аднак, паколькі прэса прадставіла матч Польшча—Расія як нейкую другую Бітву за Варшаву, пытанне, каму біць пысу, было вырашана само сабой.

Пакуль палітыкі, аналітыкі і прэса шукаюць адказнага, сітуацыя накаляецца. Сёння стала вядома пра тое, што пракрамлёўскі рух *«Наши»* арганізаваў пікет каля польскага пасольства ў Маскве, якое ў сваю чаргу ўзяло пад дадатковую ахову. Адначасова нямецкая агенцтва DPA інфармуе, што ў Маскве баяцца рымейка падзей 2005 года, калі ў Варшаве мелі месца напады на дзяцей расійскіх дыпламатаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЭВІН ШОРТ



Шорт — старшыня парламенту Фальклендскіх (Мальвінскіх) астравоў, права на якія аспрэчваюць Вялікабрытанія і Аргенціна. Па ініцыятыве Шорта парламентарыі прынялі рашэнне наконт правядзення ў наступным годзе рэферэндуму па пытанню, якой з дзвюх згаданых дзяржаў павінен належыць архіпелаг. Такім чынам Шорт намагаецца пакласці канец ваяўнічай рыторыцы афіцыйнага Буэнас-Айрэса, які апошнім часам вельмі настойліва патрабуе вяртання астравоў пад кантроль Аргенціны. Тое, што плебісцыт закончыцца на карысць «брытанскай» партыі, няма сумневаў. Амаль усе 3000 жыхароў выспаў — этнічныя брытанцы.

Прэм'ер Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран ужо падтрымаў гэту ініцыятыву. Што тычыцца прэзідэнта Аргенціны Крысціны Кіршнер, то ў яе адміністрацыі ўжо прыдумалі, як рэагаваць на такія правакацыі. Адзін з дарадчыкаў прэзідэнта кажа, што Аргенціна гатовая прызнаць вынікі рэферэндуму пры ўмове, што напярэдадні галасавання архіпелаг пакінуць англійскія жаўнеры, прысутнасць якіх, быццам, не дазваляе тубыльцам галасаваць свабодна. Відавочна, што на дэмілітарызацыю астравоў Лондан ніколі не пойдзе.

### НУРСУЛТАН НАЗАРБАЕЎ



Аўтарытэт казахскага гаранта аказаўся пад пагрозай пасля таго, як на адным з інтэрнэт-форумаў нейкі ананім са службы аховы прэзідэнта распавёў, у якім фармаце праходзяць казахска-кітайскія саміты. Вось галоўны фрагмент споведзі: «Як толькі Назарбаеў і Ху Цзіньтао (кіраўнік КНР) застаюцца без камер і тэлебачання, кіраўніцтва Кітая дазваляе сабе падвышаць голас! І ставіцца да яго (Назарбаева), быццам перад імі сядзіць не прэзідэнт незалежнай краіны, а губернатар правінцыі Заходняга Ляо (менавіта так завецца тэрыторыя Казахстана ў Кітайскіх летапісах). Шкада нашага прэзідэнта, мы думаем, што ён шыкуе, але насамрэч яму страшна — і страх яго жывёльны і дзікі». На думку аналітыкаў, кампрамат можа быць звязаным з таямнічым забойствам казахскіх памежнікаў на кітайскай мяжы. Ёсць версія, што гэта зрабілі кітайскія грамадзяне, і Астана баіцца пачаць адпрацоўваць кітайскі след, каб не сапсаваць адносіны з Пекінам.

### АЛЬФРЭДА ПЕРЭС РУБАКАЛЬБА



Старшыня Іспанскай рабочай сацыялістычнай партыі (PSOE) — галоўнай сілы апазіцыі — і яго таварышы прыдумалі, як можна дапамагчы нацыянальнаму бюджэту ў час крызісу. PSOE пачала кампанію супраць падатковых ільготаў для каталіцкай царквы і іншых рэлігійных арганізацый. Сацыялісты лічаць, што абшчыны павінны плаціць падатак на нерухомасць, ад чаго яны вызвалены адпаведна канкардату, які Мадрыд заключыў з Ватыканам у 1979 годзе. Кангрэс партыі сацыялістаў, які прайшоў 9 чэрвеня, прапанаваў перагледзець канкардат, які, на іх думку, надаў касцёлу шмат ільготаў. Па падліках PSOE, іспанская казна губляе некалькі мільярдаў еўра ў год, якія можна выкарыстоўваць для павелічэння заробкаў дзяржслужачых, што патрапілі пад сур'ёзныя скарачэнні, і для вырашэння праблемы дэфіцыту бюджэту. Касцёл ужо адрэагаваў на ідэю сацыялістаў. Прэзідэнт Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Іспаніі паставіў сацыялістам свой ультыматум: прыстрашыў у выпадку перагляду канкардату спыніць царкоўнае фінансаванне ўсіх адукацыйных і сацыяльных праграм.

ЛЁС

# ГАЛОЎНЫ ЦЕЛААХОЎНІК СТАЛІНА

З успамінаў прыёмнай дачкі генерала МВД Мікалая Уласіка перад намі паўстае прывабны вобраз чалавека. Клапатлівага за сваю сям'ю і блізкіх, без ганарлівай пыхі вялікага начальніка, простага ў адносінах з землякамі, працавітага, з прагай да ведаў, са сваімі захапленнямі.

Хутчэй за ўсё, такім ён і быў. Дома. У сям'і. На адпачынку. Толькі вось праца ў яго была асаблівая — галоўны ахоўнік Сталіна. Творцы і правадыра палітычнай сістэмы, дзейнасцю якой былі знішчаны мільёны ні ў чым не вінаватых людзей. І быў ён генералам таго самага карнага ведамства, якое з'яўлялася ядром гэтага жудаснага канвеера смерці. Па роду сваіх службовых абавязкаў генерал Уласік не меў непасрэднага дачынення да злачынстваў сталінскай таталітарнай сістэмы, не аддаваў загадаў на расстрэлы ў тысячах Курапатаў. Але ж ведаў пра тое. І верыў калі не ў справядлівасць, дык у вымушаную неабходнасць той крывавай вакханаліі дзеля вялікай мэты — пабудовы сацыялізму.

Пра бязмежную адданасць генерала Уласіка Сталіну ўжо ў той час хадзілі легенды. Але гэта не выратавала яго самога ад рэпрэсій. Са згоды Сталіна, членам сям'і якога ён, здавалася б, стаўся.

Праз лёс генерала Уласіка, простага сялянскага хлопца, які паверыў у ідэалы рэвалюцыі, простага чырвонаармейца, якому пашчасціла выжыць у грамадзянскай вайне і якому тая вайна адкрыла шлях, здавалася б, неверагодная кар'еры, перад намі паўстае ўвесь жах таталітарных рэжымаў і іх правадыроў. Нармальныя людзі ператвараюцца ў нейкіх монстраў. На ўсіх узроўнях гэтай сістэмы. Псіхіка кожнага раздвойваецца. Каты і ахвяры. Прыстасаванства і здрада. Мараль знікае, асоба растварaецца. Ілжа наскрозь пранізвае грамадства і душы кожнага.

Ці трэба нам ведаць пра лёсы і пра нармальныя праяўленні чалавечых якасцей у дзеячаў нечалавечых рэжымаў? Думаю — так, каб зберагчы свае душы ад пранікнення той жа заразы, каб урэшце спыніць канвеер таталітарызму і кланаванне монстраў таталітарызму.

**Аляксей Кароль**



Васіль Сталін, Мікалай Уласік і Іосіф Сталін

*Сяргей ЧЫГРЫН*

**Побач са Сталінам стаяў чалавек, якога не ўсе ведалі ў твар. Роля «Містэра Ікс» адводзілася асабістаму целаахоўніку правадыра, генерал-лейтэнанту МДБ СССР, ураджэнцу вёскі Бабынічы Слонімскага раёна Мікалаю Уласіку.**

## Доўгачаканы адказ

Гадоў дваццаць таму мне ўпершыню ўдалося апублікаваць некалькі матэрыялаў у раённым і рэспубліканскім друку пра галоўнага целаахоўніка Сталіна са Слонімшчыны Мікалая Уласіка. Тады мне сваякі з вёскі Бабынічы далі маскоўскі адрас дачкі генерала, па якому я напісаў ліст. Але адказу на працягу 11 гадоў не было. Ды нежак на мой слонімскі адрас прыйшоў з Масквы ліст ад прыёмнай дачкі генерала Надзеі Мікалаеўны Міхайлавай (уласных дзяцей генерал Уласік не меў). Яна, у прыватнасці, пісала, што «ў сілу розных цяжкіх абставін я не змагла адказаць адразу, але так, як у маім хатнім архіве ніколі не прападаюць паперы, я, перабіраючы іх, наткнулася на ваша пісьмо... У чэрвені 2000 года рэабілітавалі майго бацьку, ужо вярнулі яго ордэны, а цяпер чарга за вяртаннем звання «генерал-лейтэнанта». 25 мая і 2 кастрычніка 2001 года былі пра яго тэлеперадачы, дзе я выступала з успамінамі. Пра бацьку выйшла кніга В. Логінава «Цені Сталіна». Адным словам, добрае імя майго бацькі пацíху вяртаецца з небыцця...».

Перапіска наша працягваецца да сённяшніх дзён. Надзея Мікалаеўна шмат цікавага, раней невядомага, расказала пра свайго бацьку — генерала Уласіка.

## Мікалай Уласік дома ніколі не казаў пра Сталіна

***— Надзея Мікалаеўна, раскажыце трохі пра сябе.***

— Я закончыла дзесяцігодку і мастацка-педагагічнае вучылішча. Пасля паступіла ў паліграфічны інстытут на факультэт афармлення друкарскай прадукцыі. З 1959 да 1998 года працавала ў маскоўскім выдавецтве «Наука», маючы дзве прафесіі — мастака кнігі і рэдактара. Цяпер я на пенсіі.

Была два разы замужам. Першы раз — чатыры гады, другі раз з мужам пражыла сем гадоў (ён памёр у 1994 годзе). Дзяцей у мяне няма. Ёсць сяброўкі, былыя калегі па працы. Мама мая памерла. Яна нідзе не працавала, была хатняй гаспадыняй. Мама добра ведала англійскую і французскую мовы, стэнаграфію. І калі бацьку рэпрэсавалі, паехала за ім у Сібір.

***— Калі апошні раз вы пабывалі на роднай Слонімшчыне?***

— Я была на сваёй радзіме разам з бацькамі ў 1940 годзе і летам 1945 года. Прыязджала таксама з мужам восенню 1972 года. А вось сваякі з вёсак Бабыніч і Васілевіч Слонімскага раёна ў мяне гасцявалі часцей. Цяпер я рэгулярна перапісваюся з імі.

***— Генерал Мікалай Уласік — ваш родны бацька?***

— Не. Ён мяне ўдачарыў і ў 1940 годзе прывёз з Бабыніч у Маскву. Я яго пляменніца, дачка яго роднай сястры Вольгі (памерла ў 1977 годзе). У 1940 годзе, калі адбылося ўз'яднанне Заходняй Беларусі з Усходняй, Мікалай Уласік наведваў Слонімшчыну, падтрымліваў сувязі са сваякамі, дапамагаў ім. Цяпер у Бабынічах жывуць мае сваякі. Старэйшая сястра Вера была выгнана ў Германію, пасля адпраўлена ў Нарвегію, дзе выйшла замуж і жыла да самай смерці. Сярэдні брат Пеця жыве ў Эстоніі. Я ў сям'і самая малодшая. У час вайны многія мае сваякі пайшлі ў лес да партызан, а мандатам быў у іх партрэт майго бацькі Мікалая Уласіка.

***— Якім вам помніцца Мікалай Сідаравіч?***

— Валявым, мэтанакіраваным, вельмі занятым. Я яго рэдка бачыла. Прыязджаў дамоў на адну гадзіну (15 хвілін — абед, 45 — сон на канапе), затым — галаву пад кран і... зноў на працу. Вельмі добра фатаграфаваў, яго здымкі часта друкаваліся ў газеце «Правда». А здымак з Тэгеранскай канферэнцыі абышоў увесь свет.

Бацька быў дужа запальчывы, але хутка адыходзіў. Любіў дзяцей. Мог смачна прыгатаваць рагу, шашлык, харчо. Калі ён прыязджаў — у доме было свята. Ён умеў усё хутка арганізаваць, за што Сталін яго заахвочваў і ўзнагароджваў. А яшчэ — ён у вольны час выдатна іграў з «гаспадаром» у більярд.

***— Што любіў чытаць галоўны целаахоўнік Сталіна?***

— Мяне заўсёды здзіўляла, як тата шмат чытаў, часам цэлыя ночы навылет, нават вывучаў Савецкую энцыклапедыю, хадзіў у кіно, тэатр. Ён выпісваў шмат газет і часопісаў, цікавіўся палітыкай. Пакуль жыла я побач з бацькам, я не ўсведамляла, якім незвычайным чалавекам, самародкам ён быў. У нашай сям'і тады было прынята стрымліваць свае пачуцці. І я вельмі шкадую, што пры жыцці таты не ўдалося сказаць яму, як я яго паважаю, якім ён для мне быў дарагім чалавекам. Праўду кажуць: вялікае бачыцца на адлегласці. А яшчэ ў гутарцы таты да канца яго жыцця збярогся беларускі акцэнт.

***— Ці расказваў што-небудзь Мікалай Уласік дома пра Сталіна?***

— Бацька дома ніколі нічога не расказваў пра Сталіна, пакуль працаваў з ім. А пасля ссылкі час ад часу яго ўспамінаў. Балюча тату было, што Сталін не абараніў яго ад Берыі, даў яго арыштаваць. Але Мікалай Уласік ніколі не трымаў злосці на «гаспадара», ён яго шчыра паважаў, любіў і быў яму адданы. Калі арыштавалі бацьку — хутка не стала і Сталіна. А ён гэта прадбачыў.

***— З кім сябраваў ваш бацька?***

— Мой бацька сябраваў з генералам Паскробышавым, які быў рэферэнтам і сакратаром Сталіна. Мы хадзілі да Паскробышавых у госці, яны — да нас. З дачкою гэтага генерала я сябрую да сённяшніх дзён. Сябраваў Мікалай Уласік з генераламі Анціпенкам, Мерацковым, адміралам Кузняцовым. У нашым доме пабывалі народныя артысты СССР Казлоўскі, Лемешаў, Міхайлаў. Двойчы прыязджаў у госці да бацькі маршал Ракасоўскі. Першы раз ён завітаў да нас пасля параду Перамогі 24 чэрвеня 1945 года, нават начаваў у нас, падараваў мне фотаздымак з аўтографам.

У добрых адносінах мой тата быў з акадэмікам-кардыёлагам Бакулевым, лячыўся ў яго, а таксама з прафесарам Ягоравым з Крамлёўскай паліклінікі. Шмат гадоў бацька сябраваў з мастаком Стэнбергам, які афармляў да парадаў Красную плошчу.

***— А ці сябраваў ваш бацька са сваякамі Сталіна?***

— Нярэдка бывалі ў нашым доме дзеці Сталіна — Святлана і Васіль. Тата вельмі перажываў за год да сваёй смерці, калі даведаўся, што Святлана Алілуева выехала за мяжу. Яе і Васіля ён моцна любіў.

***— У 1956 годзе Мікалай Уласік вярнуўся з ссылкі. Як склаўся яго далейшы лёс?***

— Калі бацька вярнуўся ў Маскву, ён спадзяваўся, што даб'ецца праўды. Пісаў лісты членам Палітбюро ЦК КПСС і асабіста Хрушчову. Але, на вялікі жаль, ён не дажыў да рэабілітацыі. Цяпер гэтым займаюся я. А 28 чэрвеня 2000 года Мікалай Уласік быў апраўданы з-за адсутнасці злачынства. Мне вярнулі ўсе яго ўзнагароды.

***— А якія гэта ўзнагароды?***

— Тры ордэны Леніна, ордэн Кутузава 1 ступені, ордэн Чырвонай Зоркі, 4 ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга і 6 медалёў.

***— Дзе пахаваны ваш бацька?***

— Памёр ён 18 чэрвеня 1967 года. Пахаваны на тэрыторыі Данскога манастыра ў Маскве — там, дзе знаходзяцца магілы маіх дзядулі і бабулі па мамінай лініі. Мне вельмі хацелася б, каб на радзіме — у Слонімскім краязнаўчым музеі імя Стаброўскага — быў куточак, прысвечаны генералу са Слонімшчыны Мікалаю Уласіку.

## З біяграфіі Мікалая Уласіка

Мікалай Уласік нарадзіўся 22 сакавіка 1896 года ў вёсцы Бабынічы Слонімскага раёна ў беднай сялянскай сям'і. Закончыў царкоўна-прыходскую школу. Рана пачаў працаваць. Спачатку — на будаўніцтве, а пасля — на папяровай фабрыцы ў Альбярціне. У 1915 годзе быў прызваны на ваенную службу. За выкананне баявога задання быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам першай ступені.

У 1919 годзе па мабілізацыі партыі быў накіраваны ў асобы аддзел ВЧК у падпарадкаванне Дзяржынскага, пасля пераведзены ў аператыўны аддзел. Мікалаю Уласіку было даручана арганізоўваць ахову асобага аддзела ВЧК, Крамля, членаў урада і асабістую ахову Сталіна.

У гады Вялікай Айчыннай вайны слонімец шмат зрабіў па падрыхтоўцы да эвакуацыі савецкага ўрада і дыпламатычнага корпуса Міністэрства абароны ў Самару.

Пасля вайны Мікалай Уласік з'яўляўся не толькі галоўным целаахоўнікам Сталіна, але і кантраляваў усе мерапрыемствы, якія праводзіліся ў Вялікім тэатры і ў Георгіеўскай зале Крамля. Ні адзін святочны канцэрт не адбываўся без санкцыі Уласіка. Яму званілі, каб атрымаць указанні наконт будаўніцтва новага аэрадрома паблізу Масквы. Без яго ўхвалення не зацвярджаўся графікаў руху цягнікоў. Генерал курыраваў усё, што было звязана з Краснай плошчай, з правядзеннем там дэманстрацый і парадаў, з утрыманнем і ахоўвай маўзалея Леніна.

Мікалай Уласік прымаў непасрэдны ўдзел у арганізацыі і правядзенні Тэгеранскай, Ялцінскай і Патсдамскай канферэнцый. На ім таксама ляжала вышэйшая адказнасць за харчаванне Сталіна, за якасць прадуктаў і страў. Усё падвяргалася строгаму аналізу ў спецыяльных лабараторыях. Калі Сталін быў, напрыклад, на Патсдамскай канферэнцыі летам 1945 года, то па распараджэнню Уласіка ўсе прадукты былі туды завезены з Масквы. А ў мясцовага насельніцтва закуплялася толькі жывая жывёла — каб выключыць магчымасць атручвання.

У пачатку 1950-х гадоў над генералам Уласікам пачалі «згушчацца хмары». Асноўную ролю ў краху яго кар'еры і самога жыцця сыграў Берыя. Ён рваўся да ўлады і, будучы хітрым і разумным, здолеў увайсці ў давер да Сталіна. Ім была сфабрыкавана справа дактароў санітарнага ўпраўлення Крамля, якія нібыта хацелі атруціць правадыра. Па гэтай справе праходзіў і Мікалай Уласік, якога ў 1952 асудзілі і саслалі ў Краснаярск. І толькі праз чатыры гады яму дазволілі зноў вярнуцца ў Маскву...

## Пасляслоўе

У адным са сваіх лістоў дачка генерала Уласіка Надзея Мікалаеўна напісала: «Цікава, што я жыву ў Маскве каля Беларускага вакзала, побач з Брэсцкай вуліцай. Значыць, існуе няспынны ланцуг часу». А яшчэ былая сланімчанка прыслала рэдкія фотаздымкі з сямейнага альбома, некаторыя сёння публікуем.

РЭПРЭСІІ

# НКУС–ГЕСТАПА: ШЛЮБ ПА РАЗЛІКУ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Гісторыкі і публіцысты доўга абыходзілі няззручныя пытанні, звязаныя з савецка-германскай дамовай ад 25 жніўня 1939 года. Зрэшты, дыскусіі вакол палітычнай сітуацыі лета 1939 года не сціхаюць і зараз.**

На тое ёсць прычыны. Галоўная з іх — зразумелае імкненне спасцігнуць сутнасць драматычных падзей, што прывялі да вайны, і зрабіць патрэбныя на сённяшні дзень высновы. Аднак ёсць і іншыя прычыны...

У наш час чытач практычна нічога не ведае пра тое, з якой спецыфічнай мэтай выкарыстоўваўся шэраг перасыльных турмаў НКУС у Мінску і Брэсце.

Снежань 1939 года. «Нас было дваццаць восем мужчын і тры жанчыны... Ад страху ўсе твары здаваліся застылымі. Мы стаялі і глядзелі на чыгуначны мост, які падзяляў занятую немцамі Польшчу і яе частку, акупаваную рускімі. Праз мост да нас павольным крокам набліжаўся вайсковец. Калі ён падышоў, я разгледзела эсэсаўскую фуражку. Афіцэр НКУС і эсэсавец віталі адзін аднаго, прыклаўшы руку да брыля. З вузкай светла-карычневай торбы афіцэр НКУС выцягнуў спіс і стаў называць прозвішчы. У гэты момант ад нашай групы адышлі трое, кінуліся да энкавэдыста і сталі штосьці ўсхвалявана яму тлумачыць. Побач са мной хтосьці прашаптаў: «Адмаўляюцца пераходзіць мост!» Адзін з трох быў габрэй-эмігрант з Венгрыі, двое іншых — немцы: настаўнік па прозвішчы Кеніг і малады рабочы з Дрэздэна, які ўдзельнічаў ва ўзброенай сутычцы з нацыстамі, збег у Савецкую Расію і завочна ў Германіі быў асуджаны да смяротнага пакарання. Вядома ж, усіх траіх пагналі праз мост...»

Гэты ўрывак з кнігі ўспамінаў Маргарэт Бубер-Нойман «Вязень Сталіна і Гітлера», якая выйшла ў Франкфурце-на-Майне ў 1949 годзе. Той жа тэме аддаў належнае аўстрыйскі гісторык Ханс Шафранэк: ён «падняў» у палітычным архіве германскага МЗСа адпаведныя нацысцкія дакументы і апублікаваў у кнізе «Паміж НКУС і гестапа» (Франкфурт-на-Майне, 1990). Шыраца магчымасці і для працы ў айчынных, засакрэчаных раней, архівах. Мы даведваемся нарэшце некаторыя рэальныя падрабязнасці сталінска-гітлераўскіх гульняў — да і пасля пакту 1939 года.




Выдачу немцаў, арыштаваных НКУС, звычайна звязваюць з пактам 1939 года. Аднак зараз робіцца відавочным, што актыўная высылка (асобныя выпадкі здараліся і раней) пачалася яшчэ зімой 1937 года. І да падпісання пакта, можна меркаваць, з Савецкага Саюза ў Германію было адпраўлена некалькі сотняў чалавек (агульная колькасць высланых і выдадзеных — больш за тысячу).

Як гэта адбывалася? Ранняй восенню 1936 года германскі амбасадар Шуленбург выказаў Молатаву і Літвінаву пажаданне нямецкага боку, каб германскія грамадзяне, што знаходзіліся пад следствам НКУС, прызнаныя невінаватымі, або тыя, супраць каго маецца недастаткова доказаў, былі высланы з СССР. У лістападзе 1936 года Шуленбург яшчэ раз звярнуўся да Літвінава з просьбай высветліць лёс арыштаваных германскіх грамадзян. Савецкі бок даў зразумець, што экстрадыцыя магчымая.

Напачатку 1937 года намеснік наркома замежных спраў Крэсцінскі паведаміў Шуленбургу, што, паводле прысуду Асобай нарады, з СССР у Германію высылаюцца дзесяць чалавек.

Практычна ўсё гэта выглядала так: германскае пасольства звярталася ў Народны камісарыят па замежных справах, і ўжо яго супрацоўнікі звязваюцца з НКУС. Германскае пасольства накіроўвае ў Народны камісарыят спісы, у адказ немцам называюцца іншыя прозвішчы. Сярод высланых былі і спяцы, і палітэмігранты, і проста людзі, што ўжо дзесяцігоддзі жылі ў СССР. Аб'ядноўвае іх толькі адно — усе яны арыштаваныя. Як жа ўспрымалі свой прысуд самі высланыя? Былі такія, хто лічыў: калі ўжо сядзець, дык у сябе на радзіме «за справу», і нават настойвалі на высылцы. Але вельмі часта гэта ўспрымалася як трагедыя.

Часам высылка адбывалася і без папярэдняга арышту. Так было, напрыклад, з вядомым нямецкім акцёрам Эрвінам Гешонэкам. У 1937 годзе ў нямецкім тэатры ў Адэсе ён якраз выконваў ролю следчага НКУС, які паспяхова раскрыў шкодніцкую змову. Але НКУС ставіў свае спектаклі: трупа была разагнаная, Гешонэк выключаны з партыі і на працягу трох дзён высланы з СССР, каб праз нядоўгі час апынуцца ў канцлагеры «ў сваіх».

Пасля пакту 1939 года сітуацыя з высылкай змяняецца. Зараз германскае пасольства ўжо не просіць, яно патрабуе: «Сапраўдныя дружалюбныя адносіны паміж III рэйхам і СССР несумяшчальныя з тым, каб такая колькасць германскіх грамадзян знаходзілася ў савецкіх турмах».

11 лістапада 1939 года ў адказ на настойлівыя патрабаванні Шуленбурга тагачасны намеснік наркама замежных спраў Пацёмкін просіць яго звярнуцца непасрэдна да Сталіна і Молатава. 14 кастрычніка 1939 года Шуленбурга прыняў Молатаў і запэўніў, што зоймецца гэтым пытаннем.

Калі ў 1937–1938 гадах высылалі асуджаных па прысудах Асобай нарады НКУС СССР, то ў 1939-м выдавалі тых, хто ўжо праседзеў 2–3 гады ў савецкіх турмах і лагерах. Змардаваных лагернікаў і зняволеных з турмаў везлі з Арла і Яраслаўля, з Нарыльска і Варкуты, з Новасібірска і Уладзівастока і змяшчалі ў спецкамеры Бутырках. Іх падкормлівалі, выдавалі сякую-такую вопратку — падрыхтоўвалі да перадачы. Па этапе дастаўлялі ў мінскую перасыльную турму, а затым ужо адпраўлялі ў Брэст. І ўсё ж, як у 1937–1938 гадах, нават у большай ступені, гэтыя камеры напаўняліся тымі, хто меў усе падставы баяцца гестапа.

Са снежня 1939 года па красавік 1941-га НКУС і гестапа ўступаюць у непасрэдны кантакт, адносіны паміж карнымі апаратамі двух рэжымаў нагадваюць гульню — партнёры садзяцца за стол, гуляюць, і кожны імкнецца ашукаць іншага.

Цяжка ўявіць, што адбывалася з людзьмі, якія патрапілі ў гэта д'ябальскае кола. Тых, каго збіраліся выдаць немцам, прымушалі як бы станавіцца агентамі НКУС і падпісаць, напрыклад, фіктыўныя распіскі ў атрыманні грошай, а тым, хто адмаўляўся, пагражалі, што дадуць на іх кампрамат у гестапа.

Але гэта яшчэ не азначала, што НКУС перадавала ў рукі гестапа ўсіх без выключэння германскіх падданых, асабліва гэта датычылася тых, каго можна было эфектыўна выкарыстоўваць для працы на абарону. Лёс прафесара Ф.М. Неттэра характэрны для тых гадоў. У 1934 годзе ён прыбыў у СССР, бо ў Германіі як асоба габрэйскай нацыянальнасці падвяргаўся пераследам і ганенням. Першы год ён жыў у Маскве і працаваў у адной з зачыненых лабараторый, якая выконвала абаронныя замовы. З лета 1936 года ён працаваў прафесарам Томскага навукова-даследчага інстытута матэматыкі і механікі. У снежні 1938 года ён быў арыштаваны Томскім аддзелам НКУС і дастаўлены ў Новасібірск дзеля экстрадыцыі ў Германію. Праўда, далейшыя падзеі сталі развівацца зусім па іншым сцэнары.

Ф.М. Неттэр быў абвінавачаны ў тым, што ён нібыта з'яўляецца агентам разведвальнага аддзела генеральнага штаба Германіі і быў закінуты ў СССР са шпіёнскім заданнем. «За здзяйсненне контррэвалюцыйных злачынстваў» яго асудзілі да 25 гадоў турэмнага зняволення, аднак праз тры гады расстралялі ў Мядзведзеўскім лесе пад Арлом.

Пасля падпісання пакта пра ненапад і падзелу Польшчы СД у Варшаве і Кракаве дзейнічалі па ўказанні імперскага міністэрства бяспекі, якое загадвала ім працаваць у цесным кантакце са службамі НКУС у Перамышлі і Брэсце, каб гарантаваць беспраблемны пераход мяжы выданым.

Вайна, распачатая ў чэрвені 1941 года, падвяла рысу пад гэтым «мірным супрацоўніцтвам». Многіх нямецкіх эмігрантаў, ужо прызначаных да выдачы, не паспелі давезці да Брэста з далёкіх лагераў, ім заставалася даседжваць яшчэ з дзесятак гадоў. Іншых спасціг лёс Неттэра. У выданых лёс складаўся па-рознаму, на гэты конт у Германіі былі распрацаваны дакладныя інструкцыі: тых асобаў, супраць каго меўся які-небудзь кампрамат, чакаў канцлагер, «незаплямленых» і падыходзячых па ўзросце прызывалі ў вермахт, габрэі адназначна падпадалі дэпартацыі ў гета, а адтуль — у лагеры знішчэння.







Аднолькавыя злачынствы здзяйснялі СС фашысцкай Германіі і НКУС СССР (Бутовский полигон. Книга памяти жертв политических репрессий. М., 1997 г.)

РЭЦЭНЗІЯ

# БЕЛАРУСКАЕ АДКРЫЦЦЁ АМЕРЫКІ

*Леанід ЛЫЧ, прафесар*

**Кніга Любові Уладыкоўскай «Адкрыццё маёй Амерыкі, або Навошта беларусам ЗША?» займае адмысловае месца сярод сучасных выданняў.**

Напісаная на цудоўнай беларускай мове, яна ўводзіць чытача ў кантэкст такой геаграфічна далёкай ад нас краіны, як ЗША. На фоне агрэсіўнага антыамерыканізму ў афіцыйных колах Беларусі катастрафічна бракуе навуковай і пазнавачай літаратуры, прысвечанай аб'ектыўным ведам пра Амерыку. Між тым, хочацца каму таго ці не, але Злучаныя Штаты Амерыкі, як слушна піша аўтар, «задаюць тон і вектар развіцця ўсяму сучаснаму свету». І, каб канчаткова не апынуцца на ўскрайку цывілізацыйнага развіцця, належыць усебакова і глыбока ведаць, што адбываецца ў свеце.

Любоў Уладыкоўская раскрывае гісторыю станаўлення амерыканскай нацыі — комплексна, міждысцыплінарна паказваючы асноўныя гістарычныя этапы фармавання адмысловага амерыканскага феномену, які выяўляецца і ў амерыканскай культуры, і ў менталітэце, і ў сістэме каштоўнасцей. Барацьба за незалежнасць з метраполіяй, крывавыя супярэчнасці паміж прамысловай Поўначчу і рабаўладальніцкім Поўднем і вызваленне ад рабства, постаці многіх амерыканскіх прэзідэнтаў, вынесеныя на старонкі кнігі, паказ іх укладу ў росквіт амерыканскай нацыі (асабліва ж Абраама Лінкальна, да якога аўтарка, як адчуваецца, мае асаблівыя сімпатыі), развіццё амерыканскай эканомікі і прадпрымальніцтва, культуры, яе проста недасягальныя сацыяльнае і міжнароднае вымярэнні — усё гэта паказана ў супастаўленні з беларускімі рэаліямі, даючы, аднак, прастору для самастойнага роздуму самім чытачам.




Уладыкоўская, Л. Адкрыццё маёй Амерыкі, або Навошта беларусам ЗША?/ Л. Уладыкоўская. — Мінск: Тэсей, 2012 — 80 с.

«Беларускае адступленне» прысвечана сучасным надзвычай актуальным пытанням цэласнасці беларускай нацыі і яе стратэгіі, заснаваных на фундаментальных нацыянальных каштоўнасцях: беларускай нацыянальнай культуры, беларускай мове, нацыянальнай ідэнтычнасці і міжкультурным дыялогу. Як справядліва піша аўтарка, «гэта тыя ідэі і прынцыпы, дзе кампрамісы не дапускаюцца і дзе няма і не можа быць ніякай адмысловай мадэлі і ніякай адмысловай стратэгіі… ёсць пазіцыі, якія не падлягаюць дыскусіі і на дэбаты пра якія даўно час накласці вета. Такой пазіцыяй выступае нацыянальная мова».

Беларуская нацыянальная культура, як доказна і аргументавана даводзіць даследчыца, з'яўляецца сапраўдным фундаментам дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці Беларусі, без якіх і сама дэмакратызацыя грамадства немагчымая.

Любоў Уладыкоўская пераканаўча паказала рэзкую падзеленасць, расколатасць сучаснага беларускага грамадства і прыйшла да высновы, што дакладная фармулёўка нацыянальных інтарэсаў магчымая толькі пры наяўнасці грамадскага кансенсусу па вызначальных, стратэгічных напрамках. Цалкам пагаджаюся з аўтарам, што «ў маральнай і геапалітычнай плоскасці рэалізуецца не грамадства, а нацыя. Нацыя ставіць сабе мэты, выбірае каштоўнасці, да якіх звяртаецца сама і на якія арыентуе наступныя пакаленні, бо яна мае свае святыні, свае ідэалы і свае абавязкі».

Любоў Уладыкоўская правільна акцэнтуе ўвагу чытача на неабходнасці пазбаўлення ад рабскага мыслення, сервілізму ў паводзінах, што спрэс пануюць у сучасным грамадстве, адзначае неабходнасць арыентацыі на высокія ідэалы гонару і годнасці, якія спрадвеку былі ўласцівыя беларускай, як і любой іншай, шляхце. Адарванасць сучаснага масавага беларуса ад кантэксту нацыянальных культурных традыцый, у першую чаргу мовы, хрысціянскіх каштоўнасцей і ідэалаў робіць яго безабаронным перад разбуральным засіллем масавай сурагат-культуры і амаральных стэрэатыпаў і, як вынік, прыводзіць да разбурэння так званых трох «П» — пасіянарнасці, праведнасці і прафесіяналізму.

У кнізе глыбока аналізуецца сучасны стан беларусістыкі ў ЗША і амерыканістыкі ў Беларусі, паказваюцца стэрэатыпныя ўяўленні беларусаў пра Злучаныя Штаты Амерыкі, якія не заўжды адпавядаюць рэальнасці. Аўтар мае рацыю, пішучы, што Амерыка вабіць нас не толькі як краіна са значна вышэйшым узроўнем дабрабыту, але як край свабоды і дэмакратыі, неабсяжных магчымасцей для рэалізацыі творчага патэнцыялу асобы, як зямля выдатнейшых дасягненняў чалавечай думкі і як узор гарманічнага ўзаемадапаўнення цэласнага нацыянальнага арганізму і полікультурнай разнастайнасці — своеасаблівага глабалізму ў мініяцюры.

А што з амерыканскага сацыякультурнага вопыту варта выкарыстаць нам у першую чаргу, можна даведацца, прачытаўшы ўсю кнігу, тым больш што яна напісана ў папулярнай, лёгкай форме і разлічана на шырокае кола чытачоў. Няма сумнення, што пасля ўважлівага прачытання кнігі ўзнікне жаданне наведаць гэтую далёкую і ўнікальную, адначасова блізкую і ўніверсальную краіну, якую кожны можа ўбачыць па-свойму і адкрыць наноў, тым больш, што ўсе мы, як слушна піша Любоў Уладыкоўская, нараджаемся свабоднымі…



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 557

Падпісана да друку 15.06.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.